ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

18 ЖНІЎНЯ 1995 г. № 33 (3805) Кошт 2 000 руб.

## МЁРТВЫ НАПРАМАК

***Юры СТАНКЕВІЧ: "Горка гаварыць пра ўсё гэта, але падзеі апошніх месяцаў цяжарам ляглі на плечы нацыянальна свядомых людзей, на лёс краіны, што завецца Беларусь, і хочацца неяк растлумачыць хаця б сабе тое, што адбываецца, і адказаць на адвечнае пытанне "куды мы ідзём"?***

**3**

## ЗА КРОК ДА НЯНАВІСЦІ

***Алесь БЕЛЬСКІ: "І вось убіваецца новы клін, яшчэ з большым імпэтам. На гэты раз пачынальнікам грандыёзных літаратурных эксперыментаў, а па сутнасці — віноўнікам непрымірымасці, звадак, расслаення на "нас" і "вас" становіцца "Таварыства вольных літаратараў". Гэта асабліва яскрава дэманструе Ю. Гумянюк. І не толькі ў дачыненні да А. Федарэнкі, а і да іншых пісьменнікаў з білетам СП..."***

**6—7**

## КАЛІ КАПІТАН П'Е

***Аляксандр ЛЮЦКО: "Тут усё — праўда. Мабыць, зашмат сюжэтаў? Так, ім цесна, яны замінаюць адзін аднаму. Я гэта разумею. Але так было. "Палінезійскі рэйс" ужо колькі гадоў не можа ўбачыць свет кнігаю..."***

**14—15**









**Паніжэлі нябёсы**
**і жаўцее лістота,**
**Да аблокаў бялёсых**
**адлятае цяпло,**
**І ў душы і на сэрцы**
**прарастае самота**
**Па тых днях, што мінулі,**
**і па тым, што было.**

Выставы

# ІЕРУСАЛІМ У ГАСЦЯХ У МІНСКА



Выстава "Горад, што вакол нас" адкрылася днямі ў Нацыянальнай мастацкай галерэі. Прысвечана яна трохтысячагоддзю Іерусаліма. Адзначым — гэта першая ў нас выстава, дзе прадстаўлена сучасная графіка Ізраіля. Амбасада гэтай дзяржавы ад пачатку свайго адкрыцця ў Мінску распачала заўважную і разнастайную культурную дзейнасць. Як адзначыў надзвычайны і паўнамоцны пасол Дзяржавы Ізраіль у Беларусі Эліяху Валк, ужо адбыўся першы канцэрт ізраільскай музыкі, першая вечарына ізраільскай паэзіі, першы конкурс малюнкаў, а цяпер адчынілася і першая мастацкая выстава. Знаёмства з не дужа вядомай культурай краіны заўжды цікава і з прафесійнага, і з пазнавальнага пункту погляду. Горад на сямі пагорках прытуліў і многіх нашых суайчыннікаў, у тым ліку і мастакоў. Іх выстава на радзіме, пра што гаварыў на прэзентацыі дырэктар Мастацкага музея Ю. Карачун, справа будучыні. А зараз мы разам з усім цывілізаваным светам далучаемся да адзначэння гадавіны старажытнага горада.

Ну а сучаснасць Іерусаліма — на графічных аркушах ізраільскіх мастакоў. Горад на іх карцінах сапраўды вакол нас — бязмежны, без гарызонта і неба, з суцэльных дамоў, дахаў, дарог. Не людзі, сама архітэктура фарміруе наша ўяўленне пра Іерусалім. На выставе прадстаўлены каляровыя літаграфіі (забытыя нашымі мастакамі), афорты, абстрактныя кампазіцыі.

**Н. К.**

*На здымках: пасол Дзяржавы Ізраіль у Беларусі Эліяху Валк, міністр культуры і друку А. Бутэвіч, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Ю. Карачун на адкрыцці выставы; Ізраіль, якім яго ўяўляюць мастакі.*

*Фота А. МАЦЮША*



Праекты

# ВЕРХНІМ ГОРАДАМ ЗАНЯЛІСЯ ЎСУР'ЁЗ

Кажуць, што лёс Траецкага прадмесця вырашыў Мікіта Хрушчоў. Наведаўшы Мінск, ён падзівіўся, чаму горад не мае старажытнай часткі — як "у Еўропе". Зрэшты, можа, гэта гістарычны анекдот. Але факт неаспрэчны: Траецкае ўсё ж адрэстаўравалі, праўда, у выглядзе нейкай рэзервацыі з выставачнай прыгажосцю, змарнаваўшы ўсялякі дух даўніны.

Лёс Верхняга горада (пры ўсім яго крытычным стане ён уяўляецца на фоне Траецкага сапраўдным старым месцам) вырашаецца ўжо дзесяты год, а мо па-сапраўднаму і больш. І знясці намагаліся, каб пабудаваць на гэтым месцы лесвіцы, фантаны ды альтанкі. І метро пад ім правесці паспелі, знішчыўшы каштоўныя старажытныя пласты, а таму сённяшнія архітэктары вымушаны пакідаць пагорак перад Кафедральным саборам незабудаваным альбо планаваць неўразумелыя аблегчаныя канструкцыі.

Але ўжо тое, што рэканструкцыяй Верхняга горада нарэшце заняліся ўсур'ёз — радуе. Спрэчкі маюць тэндэнцыю зацягвацца, а стары горад можна і не паспець уратаваць. Сабраны грошы акцыянерным таварыствам "Стары Менск". Распрацаваны генеральны план рэканструкцыі, ён неаднойчы абмяркоўваўся, пасля чаго аўтар праекта С. Багласаў мусіў яго канцэптуальна перарабляць. Ідзе ўзгадненне з праваахоўнымі органамі, санэпідэмстанцыяй і іншымі ўстановамі. Днямі прайшло чарговае пасяджэнне Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады пры ДЗІНАС і Гарадабудаўнічага савета камітэта па архітэктуры Мінгарвыканкама — гарачае на спрэчкі і абмеркаванні.

Ідэю рэстаўрацыі Верхняга горада, аднаго з прыгажэйшых месцаў Мінска, без сумнення, падтрымліваюць усе. Разышліся думкі наконт спосабаў ажыццяўлення гэтай ідэі: ёсць ярыя прыхільнікі генеральнага плана і не менш зацятыя працінікі. Ёсць многа спрэчных момантаў. А справа? Ці не застанецца яна зноў на тым жа месцы, калі не адбудзецца паразуменне ў шэрагах упаўнаважаных і зацікаўленых асобаў? Пра гэта мы пагаворым у бліжэйшых нумарах "ЛіМа".

**Н. Ш.**

Юры СТАНКЕВІЧ

# МЁРТВЫ НАПРАМАК

## НАТАТКІ ПЕСІМІСТА

Горка гаварыць пра ўсё гэта, але падзеі апошніх месяцаў цяжарам ляглі на плечы нацыянальна свядомых людзей, на лёс краіны, што завецца Беларусь, і хочацца неяк растлумачыць хаця б сабе тое, што адбываецца, і адказаць на адвечнае пытанне "куды мы ідзём?".

Мноства народаў, без перабольшвання, пакутліва змагаюцца зараз за сваю будучыню, за жыццё на планеце ў атачэнні ашаламляльна варожага Сусвету, спрабуючы зразумець гэты Сусвет і сцвердзіць сябе ў ім, і тым самым узнімаючы жыццё над узроўнем фарсу. І, здаецца, толькі адзін народ нічога не робіць дзеля гэтага. Наш народ...

Ф. Ніцшэ абмовіўся неяк, што народы бываюць "апладняючыя" і "тыя, каго апладняюць". Да апошніх ён адносіў, прыкладам, французаў і грэкаў, да першых — старажытных рымлян, немцаў, яўрэяў. Існуюць меркаванні і пра так званае "двухпавярховае" існаванне: быццам ёсць народы першага і другога паверхаў. Пэўна, павінны ж тады існаваць і народы, так бы мовіць, склепавыя, народы дна, ямы. Да якіх жа адносіцца тады наш народ? Скажам горкую праўду: хіба не наша перспектыва — стаць у бліжэйшым будучым гноеадстойнікам Еўропы ў этнічным, экалагічным і ў маральным сэнсе? Што ж падвяло нас да гэтай рысы: ідэі-трызненні пра камунізм, наша памяркоўнасць да талерантнасць, генацыд з боку суседзяў, ці дзевяць плыняў эміграцыі ды апошняя вайна? Чаму мы раптам сталі, дарэчы, некрафільчай нацыяй?

Э. Фром сцвярджаў, што кожны чалавек рухаецца ў выбраным ім напрамку; да жывога ці да мёртвага, і што ёсць дзве формы чалавечай арыентацыі — "сіндром росту" і "сіндром распаду". Для некрафілаў характэрна імкненне да распаду, і асноўная прыкмета гэтага тое, што блізкае мінулае для іх больш рэальнае, чым будучыня.

Нядаўна я выпадкова ўбачыў хранікальныя кадры пахавання Леніна. Два чалавекі неслі ў руках транспарант з вельмі дзіўным надпісам: "Могила Ильича — колыбель всего человечества". Тут, як кажуць, ні дадаць, ні адняць: клініка, дый годзе. Ці не таму ў цэнтры Расіі, у маўзалеі, дагэтуль ляжыць не пахаваны, не аддадзены зямлі "правадыр"? Ці не таму і ў нас дасюль упарта не зносяць яго адбіткі — шматлікія помнікі. Пэўна, знішчаючы лепшых сваіх прадстаўнікоў, некаторая колькасць народа непазбежна набывае зламесныя прыкметы некрафілічнасці. І тады яны не хочуць усяго здаровага, моцнага, таго, што стаіць на сваіх нагах.

А на Беларусі больш за ўсё яны не хочуць нацыянальнай ідэі. Нават рызыкуючы ўласным дабрабытам, бо павінны ж ведаць простую ісціну, што ўласны дабрабыт чалавека залежыць ад росквіту яго нацыі. Чэшскі філосаф мінулага стагоддзя Я. Колар сцвярджаў: "...бацькаўшчыну мы можам лёгка знайсці, калі нават мы яе згубілі, але нацыю і мову — нідзе і ніколі".

У пачатку стагоддзя ў Расіі распаўсюдзіліся ідэі талерантнасці, цярпімасці, "не противления злу", інтэрнацыяналізму і г.д. У гэты ж час у маленькай Японіі народ апантана выспяваў нацыяналізм, вернасць сваёй радзіме, імператару. У вайне, што пачалася паміж гэтымі Галіяфам і Давідам (а Расія тады была вялізнай дзяржавай і займала, лічы, тую ж адну шостую частку свету), перамагла менавіта Японія. Расія ж скацілася ў 1917 год, у горы трупаў і поўны трыумф некрафіліі. Цікава, што дзякуючы былому парламенту і пры маўчанні большасці ў нас у Беларусі цяпер адназвілі на здзіўленне ўсяго свету зласнае "свята" 7 лістапада — куды ўжо далей?

Прыгадаем для параўнання, як мужна змагаецца за сваю свабоду маленькая Чачня. Мы ж знаходзім сабе апраўданні нашаму менталітэту: маўляў, у самыя змрочныя і небяспечныя часы наш народ нібы "заміраў" (тэрмін М. Ермаловіча) і тым самым выратоўваў сябе. Але ж вось выпіхнулі нас ледзь не гвалтам у незалежнасць — бярыце дарма і "заміраць" больш не трэба, жывіце, будуйце свой нацыянальны дом, вырошчвайце лаўрэатаў Нобеля. І што з гэтага выйшла? Незалежнасць — гэта прэрагатыва моцных, а ў нас плакальшчыкі ды некрафілы. Нібы два палюсы: Чачня і Беларусь. Адзін народ імкнецца захаваць са зброяй у руках сваю этнічную чысціню, мову, культуру, звычаі, другі ціхамірна крочыць у нябыт.

Магчыма, я выклікаю і раздражненне нават "свядомых дэмакратаў", але вось калі думаю пра знакамітыя "Дзяды" 1988 года, то пытаю сябе: а як, прыкладам, для параўнання паводзілі б сябе тыя ж чачэнцы, калі б іх не дапусцілі да магілаў сваіх продкаў? Загнаныя, як жывёлы ў поле, мазахісцкі ўкленчвалі б там? Скардзіліся б потым у Крэмль?

Безумоўны той наш факт, што "гара" пачатку 90-х гадоў нарадзіла "мыш" 1995 года. І, бадай, адна з асноўных прычын падзення — гэта асіміляцыя. Народ, які хоча выжыць, інтуітыўна не робіць перабора ў сваіх этнічных ваганнях. Нават цыганы ведаюць гэта. Хіба камарыны рой ці статак свіней мае нейкі філасофскі сэнс? Але вось мы забываем чамусьці тое, што пасвойму "ведае" нават нікчэмны камар: ягоны камарыны рой — адзіны ягоны ратунак.

Кінуўшы мову, сімволіку, спадзяванні на волю, нават моўчкі падставіўшы дзяцей пад бэры ды кюры (які яшчэ народ дапусціў бы такое?), мы... пайшлі на базары. Так, цэнтрам усяго культурнага жыцця насельніцтва стаў брудны, шматгалосы, няшчыры і прадажны кавалак пляца дзе-небудзь у цэнтры горада ці пасёлка. Штодня з раніцы, з поснымі, безвыразнымі тварамі, апрануты як індыкі, цягнуцца туды чароды людзей, нібы спраўджваючы нішчэўскае "народ — гэта базарныя мухі".

Увогуле пра стан нашай культуры гаварыць можна шмат, але скажу адно: хіба можна дараваць усім нам толькі тое, што не выйшла дагэтуль, і не выйдзе, бадай, ніколі кружэлкі з запісам песень хаця б той жа Вальжыны Цярэшчанкі? (Не называючы ўжо многія іншыя імёны.) І тысячы "славянскіх базараў" не кампенсуюць гэтага.

Надзеі і спадзяванні на лепшае зараз вельмі праблематычныя. Пасля знакамітага травення гэтага года Беларусь нібы атрымала кляймо "апушчанага" ў зоне з адлаведнымі адносінамі да сябе ў свеце.

Але, у рэшце рэшт, клопат не пра тых, хто хацеў гэтага і галасаваў за гэта. Яны нібы зомбі пасля адпаведнай працэдуры, і не прагнуць жыцця. Клопат ёсць пра той мільён ці хаця б пра тыя пяцьсот тысяч жывых, якія хочуць жыць прыстойна, карыстаючыся павагай і маючы магчымасць прымяніць свае веды і розум. Бо менавіта за імі, людзьмі ведаў, будучыня, бо ўсе перадавыя краіны пераходзяць зараз на новы этап існавання, у так званае постіндустрыяльнае грамадства, дзе вырашальным стрыжнем будуць інтэлектуалы, а не люмпены з малаткамі ў руках. Вядома, капіталістычны лад — не цукар, але паспрабуйце назваць што лепшае. Мяняючы ж крыж на зорку, адракаючыся ад свабоды, мовы, мы не толькі не дагонім якіх капіталістычных англа-саксаў, ці немцаў па колькасці геніяў, а і страцім апошняе.

Абыякавасць, патаемная прага да самазнішчэння нават уражвае Навошта, напрыклад, было дазваляць (а такая інфармацыя прамільгнула ў медыцынскіх выданнях) пасяляцца ў нас хворым на СНІД з той жа Расіі, ці яшчэ аднекуль? Што, у іх там няма месца? Навошта ўвогуле адкрываць межы? Нашэсце чужынцаў рэзка ўзняло рост злачынстваў. Што ні месяц, то новыя маньякі, забойцы, ашуканцы.

Хіба не бачна было раней, што ніякі не "мудры" народ павінен быў вызначаць лёс краіны, бо па сутнасці ён абезгалоўлены яшчэ сталінскімі чысткамі ды генацыдам. "Рэальнасць, — як адзначаў яшчэ М. Хайдэгер, — гэта не нешта аформленае, а "прасвет", "прасека ў лесе", убачыць якую могуць толькі людзі, якія прайшлі шлях самапазнання". Не ўбачыўшы сапраўднай рэальнасці, народ паміране, спраўджваючы свой цёмны інстынкт. І ў гэтым ёсць нешта штучна-жахлівае і ненатуральнае, нібы менавіта тут, у нас зноў адрадзіўся знакаміты прывід Антыхрыста.

У вядомай прытчы Сейбіт кінуў зерне ў камяністую глебу і яно не прарасло, бо не мела каранёў, кінуў пры дарозе і птушкі склявалі яго, кінуў у церні і церні выраслі і заглушылі яго, урэшце, кінуў ва ўгноеную глебу і зерне дало ураджай. Мы нібыта трэці варыянт з гэтай прытчы пра лёс народаў. Ці выратуюцца тыя нашы пяцьсот тысяч, ці мільён, яшчэ не заглушаны цернямі, ці дадуць новыя ўзыходы? І што ім рабіць зараз? Існаваць і далей, як унутраныя эмігранты, як тарфяная плывучая выспа без каранёў? Шукаць свабодную зямлю, як калісьці яўрэям і адпраўляцца ў зыход? Ціха згаснуць, ці заснаваць Беларутэнію альбо Крывію з сваім сапраўдным гімнам, гербам, сцягам, войскам, мытняй, грашмі, культурай, эканомікай? Але дзе знайсці такую зямлю — вось пытанне: у Аргенціне, Аўстраліі, Канадзе, Амерыцы? Бо свая, здаецца, згублена навек. Як бы ні званілі калі-нікалі ў аптымістычныя званы і не запэўнівалі, што ўсё яшчэ зменіцца да лепшага. Там, маўляў, клас беларускі ўсё яшчэ існуе, там школка. Калі і з кім зменіцца? Варта прайсціся па вуліцах, асабліва ў правінцыі і ўглядзецца ў стрэчныя твары. Прароцкі прадказаная Алесем Адамовічам "Вандэя" сёлета абудзілася ад сну і вышчарыла сваю пашчу.

## АД РЭДАКЦЫІ

Падобных лістоў "ЛіМ" яшчэ не друкаваў. Хоць паслярэферэндумная рэдакцыйная пошта прыносіць іх нямала. Тое, што адбылося на Беларусі 14 траўня, прымусіла многіх шчырых адраджэнцаў схамянуцца, задумацца і пачаць шукаць адказ на пытанні: як магло такое здарыцца і... куды ж мы ідзём? Сёй-той расчараваўся ў сваім народзе, іншы пачаў шукаць апраўданні, а некаторыя і вінаватых... Нам здаецца, што гэты ліст вельмі дакладна перадае настрой і думкі пэўнай часткі беларускай інтэлігенцыі, тых, хто самаахвярна працаваў дзеля адраджэння Бацькаўшчыны, не спадзеючыся на падзяку ці аддзяку, аднак і не чакаў таго, што словы-зярняты, кінутыя ім, упадуць на каменні і не прарастуць, упадуць у церні і церні заглушаць іх...

Меркаванне

# УТОПІЯ І ПРАКТЫКА ЭСПЕРАНТА

*"Ne kredu al parolo sen propra kontrolo"*
L. ZAMENHOFO[1]

У публікацыях, якія тычацца моўных пытанняў, час ад часу сустракаюцца думкі пра падабенства станаў беларушчыны і эсперанта. І калі Ян Максімюк ("ЛіМ", N 30, 1990 г.) гэта падабенства адзначае, успрымаючы афіцыйную беларускую мову па сутнасці як мёртвую — "як лаціну ці эсперанта", то "Новавіленец" ("Наша ніва", N 2, 1994 г.) параўноўвае больш шырокі спектр з'яў: "і па ментальнасці сваіх носьбітаў, і па месцы ў грамадстве, і па ігнараванні яе праз моўны імперыялізм, і па адносінах да яе з боку дзяржавы ("сваёй"), нават па тыражах". Трэба адзначыць, што заўвагі гэтыя слушныя, але ці дастаткова яны раскрываюць сутнасць з'явы, калі аб'ектам параўнання ўзята не надта вядомая шырокаму колу чытачоў штучная мова эсперанта? Часцей за ўсё ў друку пра яе сустракаюцца заўвагі apriori адмоўныя. Так, Максім Танк у вершы "Мне здаецца" непасрэдна звязаў з эсперанта моўны нігілізм:

**Некаторыя нат ужо**
**Стараюцца пазбыцца**
**"Перажыткаў" —**
**Сваёй культуры і мовы,**
**Быццам**
**Ля варот камунізму**
**Кантралёры**
**Будуць экзаменаваць**
**Толькі на эсперанта**
**І іх першых прапусцяць**
**У сонечны Горад.**
**О, simplicitas sancta!**

Блізкая да гэтай і думка рускага паэта Валянціна Сідарава:

**Чем объяснить, что мы об эсперанто**
**День ото дня все больше говорим?**
**Наивностью? Отсутствием таланта?**
**Шумихою? Иль чем-нибудь другим?**

Вельмі катэгарычна атрымалася ў Марціна Коўзкага:

*"На думку эсперантыстаў усе родныя мовы — чужыя, акрамя інтэрнацыянальнай" ("ЛіМ", N 25, 1992 г.)*

Цяжка гадаць, у каго ўпершыню з'явіліся такія думкі, але маё знаёмства з эсперантыстамі, у тым ліку і беларускімі, дае падставы мець іншыя меркаванні. Дзеля большай дакладнасці разумення гэтай тэмы не лішне будзе закрануць гісторыю пытання штучнай мовы.

## МОВА IN VITRO. МОЖА, ПА ГУМБАЛЬТУ?

Думка пра штучную мову, аднолькава прыдатную для ўсіх, мае больш за двухтысячагадовую гісторыю. І гэта былі не толькі практыкаванні філосафаў-схаластаў ад няма чаго рабіць. Да лінгвістычнага вынаходніцтва прычыніліся М. Настрадамус, Р. Дэкарт, І. Лейбніц, І. Ньютон, Я. Каменскі, А. Ампер, іншыя навукоўцы ды аматары. Удыхнуць жыццё ў "гамункуласа", у моўную "істоту з прабіркі" ўдалося, аднак, толькі ў 1879 годзе нямецкаму пастару Й. Шляйеру. Прапанаваная ім мікст-мова Volapük хаця і сталася складанай, але была першым удалым праектам з амаль трохсот зафіксаваных да таго часу. Мова валапюк змагла актыўна ўжывацца пісьмова і размоўна, што было першым доказам жыццяздольнасці штучна створанай мовы. Яшчэ больш удалым за валапюк стаўся праект штучнай мовы, прапанаваны ўраджэнцам Беластока Лазарам Заменгофам, якая атрымала назву Эсперанта (Esperanto D-r. Международный язык. Предисловие и полный учебник. Варшава, 1887). Нягледзячы на высілкі эсперантыстаў па прапагандзе міжнароднай мовы, дэталёвых даследаванняў пра ўплыў знешніх і ўнутраных фактараў на развіццё эсперанта ўсё ж не стае. Працы па інтэрлінгвістыцы носяць больш апісальны характар. Між тым, навукоўцы свае пункты гледжання на суадносіны ў мовах натуральнага і штучнага вызначылі даўно. Нягледзячы на разыходжанні ў падыходах да вывучэння моўных аб'ектаў, прадстаўнікі розных лінгвістычных школ пагаджаюцца на тым, што мову нельга разглядаць як канструкцыю, створаную штучна, хай сабе і з навуковым падыходам. Сцвярджэнні Вільгельма фон Гумбальта: "...усякая творчасць у галіне мовы можа быць толькі плодам яго ўласнага жыццёвага імпульсу..." і "абсалютна памылковае ўяўленне пра тое, што інтэнцыя розуму з'яўляецца непасрэдным творчым пачаткам у мовах..." нікім не аспрэчваецца (Вильгельм фон Гумбольд, "Избранные труды по языкознанию", М., 1984). Існаванне мовы эсперанта, на першы погляд, супярэчыць думкам нямецкага філосафа. Сведчанняў аб тым, што Л. Зменгоф быў знаёмы з творамі В. Гумбальта, няма. Але калі быў, то, пэўна, заўвагу пра немагчымасць разумовага падыходу да мовы ўспрыняў у прамым сэнсе і без абагульненняў, як слушную адносна мовы нацыянальнай.

Па-першае, Л. Заменгоф стварыў сапраўды цэльны моўны арганізм, асобныя элементы якога лагічна, з матэматычнай дакладнасцю, узаемадачыняюцца між сабой (тое, што В. Гумбальт назваў organische Wese), не дапускаючы фрагментарнага падыходу да мовы. Эсперанта бездакорна адпавядае патрабаванням мадальнасці, прэдыкатыўнасці і камунікатыўнасці.

Па-другое, у праекце у вышэйшай ступені рэалізаваны прынцыпы неабходнасці і дастатковасці. З дапамогай двух склонаў (назоўнага і вінавальнага) і шэрагу прыназоўнікаў ствараецца парадыгматычная вось назоўніка. Сістэма добра дапасаваных канчаткаў дае магчымасць ствараць ад зыходных лексем любыя часціны мовы, часавыя дзеяслоўныя формы. Сістэмна ўзаемазвязаны між сабой указальныя, абагульняючыя і іншыя займеннікі.

Па-трэцяе, у марфалагічным плане ўнутраную флексію (В. Гумбальт разглядаў яе як больш прыдатную, чым унутраную змену) Л. Заменгоф давёў да абсалюту, з дапамогай афіксаў (якія з адпаведнымі канчаткамі могуць таксама існаваць самастойна) утвараюцца словы і словаўтваральныя шэрагі для намінацыі з'яў жыццёвых рэалій.

Такім чынам, інтэнцыяй розуму аўтара ў праект штучнай мовы былі закладзены прынцыпы, што разам з міжнароднай лексікай сталі яе асабістымі ўнутранымі імпульсамі для развіцця. Практыка ўжывання эсперанта паказала яе прыдатнасць для ўсіх галін моўных узаемаадносін (у тым ліку ў літаратуры і навуцы) і багатыя магчымасці самаразвіцця гэтай мовы. Калі пачатковы слоўнік Заменгофа меў прыблізна 900 каранёў, то сённяшнія — па некалькі дзесяткаў тысяч.

## МАДЭЛЬ МОЎНАЙ УНІВЕРСАЛІІ

У выніку ўдалай распрацоўкі праекта ў эсперанта адлюстраваліся адзнакі і тэндэнцыі, уласцівыя ўсім мовам, або "мове ўвогуле". Адносна гэтай штучнай мовы можна казаць пра моўную універсалію. Тут яна не мае той абсурдна высокай ступені універсалізму, як у магістра Кнехта (Х. Хессэ, "Гульня ў шкляныя перлы"). Але думка аб тым, што існуе генатыповая мова, вылузваецца з чыстай абстракцыі. Інтэрлінгвісты сцвярджаюць аб "прапедэўтычным эфекце" вывучэння эсперанта. Сутнасць яго заключана у тым, што вывучэнне мовы эсперанта фармуе ўяўленне аб структуры "мовы ўвогуле" і спрыяе больш хуткаму і лёгкаму засваенню іншаземных моў (D. Blanke, "Esperanto und Wissenschaft". Berlin, 1982). Пры гэтым навучэнцы, якія засвоілі правілы пабудовы моўнай мадэлі, набліжанай да абстрактнай генатыповай, дакладна заўважаюць у структуры і граматыцы нацыянальнай мовы адхіленні ад такой мадэлі.

## ПРАБЛЕМЫ МІЖНАРОДНАГА КАМУНІКАВАННЯ

Пры ўсіх сваіх дадатных рысах эсперанта, аднак, не атрымала таго распаўсюджвання, як можна было б чакаць. У міжнацыянальных зносінах англійская, руская, французская мовы займаюць дамінуючае становішча. На фармаванне іерархіі тут значна ўплываюць сілы вонкавыя, галоўную з іх — дух нацыі — лінгвістыка савецкага перыяду адмаўляла. Аднак яшчэ той жа В. Гумбальт пісаў: "Мова нацыі ёсць яго дух, і дух народа ёсць яго мова, і цяжка ўявіць сабе што-небудзь больш тоеснае". Тэзіс: мова нацыі — духа нацыі — светапогляд — мадэль сусвету філасофіі ўжо распрацаваны. Паміж прадстаўнікамі дзвюх розных нацый і светам рэчаіснасці знаходзяцца як пасрэднікі дзве розныя мадэлі сусвету, створаныя ўнутранай духоўнай працай. Пры кантэксце носьбітаў розных моў адбываецца не простае камунікаванне, а сутыкненне розных светапоглядаў. І калі такія кантакты адбываюцца не на ўзроўні адзінак або малых груп, а на ўзроўні асобных папуляцый, яны набываюць востры характар. У выніку ўзаемнага ўплыву "...нацыя, якая адухоўлівае і ўзбагачае чужую мову сваёй самабытнасцю, не можа не ператварыць яе тым самым у іншую" (В. Гумбальт). Тым самым скажаецца дух мовы, змяняецца светаўспрыманне нацыі. Супрацьстаянне моўнай экспансіі суседняга этнасу, або дзяржавы-заваёўніка — гэта інстынктыўная спроба захаваць сваю, створаную продкамі чыннікам роднай мовы, мадэль сусвету. Перавагу ў такім супрацьстаянні маюць прадстаўнікі этнасу з больш высокім духам нацыі. Падаецца, што для пазначэння гэтай уплывовай сілы больш падышла бы дэфініцыя "духоўны патэнцыял нацыі". Пад духоўным патэнцыялам трэба разумець не толькі культурную спадчыну і ўзровень культурных дасягненняў этнасаў, якія насяляюць дзяржаву, але і эканамічную, тэхнічную, навуковую моц гэтай дзяржавы, яе гатоўнасць да абароны сваіх інтарэсаў. Можна дапусціць, што ў сінэргетычным дзеянні гэтых складнікаў колькасць насельніцтва не з'яўляецца галоўнай. Гэты тэзіс падмацоўваецца прыкладамі з гісторыі цывілізацыі. Стварэнне Рымскай імперыі ішло аднначасова з распаўсюджваннем па Еўропе лаціны, асабліва ў галінах навукі. Захоп амерыканскага катынгенту еўрапейцамі прывёў да распаўсюджвання там англійскай ды іспанскай моў. Нягледзячы на тое, што ў асваенні Новага Свету ўдзельнічалі амаль усе еўрапейскія дзяржавы, пераважыў духоўны патэнцыял англічан ды іспанцаў, саступіўшы трохі на поўначы французам. Такі быў у той час расклад сіл, іерархія духоўных патэнцыялаў нацый. Карэнныя этнасы, якія не пажадалі ўспрыняць чужыя ім культуру і мову (а, значыцца, і светапогляды), былі вымушаны вымерці. Гісторыя Расійскай імперыі не выбіваецца з гэтага шэрагу прыкладаў. Тое, што цяпер называюць "праблемай рускамоўнага насельніцтва", з'яўляецца не толькі пытаннем правоў чалавека, але таксама адлюстроўвае супрацьстаянне носьбітаў розных светапоглядаў. Для прыбыльца з метраполіі пачаць карыстацца ў паўсядзённасці мовай карэннага этнасу — значыць, пагадзіцца з яго светапоглядам, успрыняць яго мадэль сусвету.

А ці было калі інакш? В. Гумбальт сцвярджае, што было: "Агульнагрэчаская еднасць згуртоўвала ўсіх, пазначаючы пячаткай своеадметнасці дзейнасць кожнай народнасці... (...) Ні адна з народнасцяў не прыніжала другую, але ўсе працвіталі згодна сваім памкненням; ніводзін з дыялектаў не апусціўся да простанароднасці і не ўзвысіўся да пануючага стану ўсеагульнай мовы". Аднак гэты прыклад антычнай ідыліі не быў аднесены аўтарам да канкрэтнага часу, дадзены ў статыцы. Усё было ў Грэцыі ад часоў архаікі да эпохі элінізму — і каланізацыя, і войны між суседзямі і гарадамі-полісамі. Хіба што ў выніку блізкасці моўнага духу асобных народнасцяў і невялікай розніцы ў іх духоўных патэнцыялах разыходжанні ў светапоглядах былі невялікія, што, у сваю чаргу, і памяншала супрацьстаянне.

Тое, што існуе духоўны патэнцыял нацыі, які залежыць ад узроўню эканамічнага і навуковага развіцця краіны, падмацоўваецца фактам, што якраз дзяржаўныя мовы краін з моцнай эканомікай маюць дамінуючае становішча ў міжнародным камунікаванні. "...пасля другой сусветнай вайны англійская марудна, але няўхільна станавілася агульнапрызнанай мовай навукі. Але так было не заўсёды. На працягу 200 гадоў да другой сусветнай вайны большасць навуковых паведамленняў выкладалася на нямецкай, французскай або англійскай мовах (мовы пералічаны згодна частаты іх выкарыстання)" (Айзенберг Э. "Английский язык — язык науки?". "Scientific American", NN 2—3, 1993).

Цытаванае сведчыць, што "іерархія моў" — гэта не "адлюстраванне камунікацыйных працэсаў", а хутчэй адлюстраванне іерархіі навукова-эканамічных становішчаў краін ды іншых чыннікаў. Эканамічна моцная дзяржава можа дазволіць сабе выдаткі на фінансавую падтрымку сваёй мовы ў міжнародным камунікаванні. Так, у моўнай палітыцы ЗША больш увагі надаецца падтрымцы вывучэння іншаземцамі ангельшчыны, чым навучання суграмадзян іншаземным мовам. Эканомія часу ў агульнадзяржаўным маштабе перакрывае доларавыя выдаткі, а дадаткова носьбіт ангельшчыны атрымлівае перавагу, якая базуецца на тым, што камунікаванне з іншаземцамі ідзе на глебе яго (амерыканца) светапогляду. Гэтыя працэсы і ёсць моўная экспансія, або моўны імперыялізм.

Для дамінуючай мовы любая, нават маленькая саступка сваёй пазіцыі іншай мове, нацыянальнай або штучнай, яўляе пагрозу яе стану, якая ў канчатковым выніку ўплывае на духоўны патэнцыял нацыі (зніжае яго) і тым самым зніжае палітычнае рэнамэ дзяржавы-імперыі. Эсперантыст М. Бранштэйн піша, што ў 70-х гадах супрацоўнікі ленінградскага Абрліта яму тлумачылі, што само слова "Эсперанта" непрымальна для друку, бо ў спісе слоў, на якія трэба звяртаць увагу пры "литировании", ёсць адзнака — "не рекомендовать". Здаецца, чым магла штучная мова перашкаджаць палітыцы магутнай дзяржавы? Але савецкія ідэолагі справу сваю ведаюць добра. Наколькі валоданне мовай эсперанта змяняе светапогляд, паказвае такі прыклад. Шматкроць ужытае ў палітычнай сферы слова "інтэрнацыянальны" было адаптавана да патрэб камуністычнай прапаганды, згубіла свой першапачатковы сэнс і набыло абагульняючае значэнне — "агульны для ўсіх нацый", "саюзны". А эсперантыст скажа, што не; згодна з граматыкай — гэта тое, што знаходзіцца паміж нацыямі, аднолькава нейтральнае для ўсіх. А вось слова "Інтэрфронт" увогуле выбіваецца з логікі мовы і ўспрымаецца, у лепшым выпадку, як надуманае і няўдалае.

Лагічна дапусціць, што актыўнае карыстанне мовай эсперанта змяняе светапогляд чалавека. Але ці можна такім чынам сфармаваць агульны светапогляд у прадстаўнікоў розных нацый? У час камунікавання эсперантыстаў пасылка, успрыманне і апрацоўка інфармацыі нервовымі цэнтрамі мозга ідзе непасрэдна на эсперанта, без перакладу на родную ці іншую мову. Інфармацыя перадаецца непасрэдна ад ego да ego. Тут яна фармуецца згодна правілам пабудовы "мовы ўвогуле", пазбаўляецца непрынцыповых нацыянальных рыс (ці важна, напрыклад, у агульным выпадку, адзначаць пол сабакі?) і захоўвае, разам з тым, усе фарбы адметнасці ўспрымання з'явы асобай. Адбываецца не сутыкненне, а як бы ўзаемнае накладанне палёў-светапоглядаў, якія маюць як агульныя для ўсіх асоб, так і адметныя рысы, што нясуць адбітак этнічных рыс і звычаяў. А тое агульнае некаторыя эсперантысты спрабуюць азначыць як эсперанта-культуру. На жаль, даклады па гэтым пытанні маюць слабую аргументацыю і з іх нельга рабіць выснoў аб існаванні такой культуры. Але несумненна тое, што камунікаванне на нейтральнай мове адпаведна ўплывае на асобу, якая таксама адчувае адметнасць і разам з тым каштоўнасць рыс свайго светаўспрымання. Якраз у колах эсперантыстаў, асабліва на вялікіх імпрэзах (напрыклад, такіх, як былыя Balta Esperanta Tendaro — Балтыйскі Эсперанта-Лагер) суіснуюць адначасова высокая нацыянальная свядомасць і вялікая павага да такога пачуцця ў іншых асоб.

З усяго адзначанага можна рабіць высновы:

Па-першае, моўная іерархія ў міжнацыянальным камунікаванні не з'яўляецца следствам перавагі адной мовы над другой, а адлюстроўвае суадносіны духоўных патэнцыялаў нацый у дадзены момант, якія, у сваю чаргу, вызначаюцца ўзроўнем эканамічнага і культурнага развіцця краін. Носьбіты мовы, якая займае дамінуючае становішча і з'яўляецца мовай-пасрэднікам, атрымліваюць псіхалагічную перавагу пры камунікаванні.

Па-другое, штучная мова (у першую чаргу эсперанта) у міжнацыянальных зносінах не можа аслабляць пазіцыі мовы нацыянальнай, калі апошняя не ўжываецца як мова-пасрэднік.

Па-трэцяе, становішча нацыянальнай мовы залежыць ад ступені фінансавай падтрымкі дзяржавай моўнай палітыкі, накіраванай на ўзмацненне свайго статусу ў міжнароднай супольнасці.

І апошняе. Практыка ўжывання эсперанта паказвае не ўтапічнасць, а рэальнасць ужывання штучнай мовы ў якасці мовы-пасрэдніка пры міжнародным камунікаванні. Ігнараванне эсперанта — гэта саступка нацыянальных моў мовам-пасрэднікам.

Вялікай памылкай і недарэчнасцю была б спроба агітацыі за пагалоўнае навучанне эсперанта. Але калі мы наважыліся выбірацца з таго стану, што трапна акрэслены "Новавіленцам", то нельга адмаўляцца ад дапаможных сродкаў. Няцяжка пакінуць кесарава кесару, а Божае Богу. Дык "...ці на тое прыносіцца святло, каб паставіць яго пад пасудзіну ці пад ложак, а не на тое, каб паставіць яго на светачу?" (паводле Марка св. Евангелле, 4.21.)

**Міхась МАХНАЧ**

*г. Смаленск*

[1] "Не вер вушам, лепш памацай сам". Л. Заменгоф.

# ЦВІЦЕ Ў ЭСТОНІІ "БЭЗ"

Цудоўны падарунак атрымалі жыхары паўночна-ўсходняга рэгіёна Эстоніі, а дакладней, яе беларуская дыяспара, ад сваіх суайчыннікаў-сяброў з Гомельскага мастацкага аб'яднання "Мэя" ("Мастацтва. Экалогія. Я."). Намаганнямі суполкі беларускай культуры "БЭЗ" горада Йыхві і мастакоў Святланы Курашовай, Уладзіміра Андрыянава і Ларысы Зуевай у ліпені ва ўтульнай зале Йыхвінскай філіі Эстонскага мастацкага музея адчынілася выстава іх твораў пад назвай "Мастацтва супраць болю". Цяжкасці з перавозам работ, з атрыманнем віз не спынілі мастакоў і як лепшая ўзнагарода — прыгожыя кветкі, беларускія песні ў іх гонар, спелы каравай на льняным вышываным ручніку і зацікаўленыя вочы гледачоў. Беларускія краявіды, кветкі, нацюрморты, тэматычныя кампазіцыі ў тэхніцы акварэлі атрымалі выдатную адзнаку ў дзеячаў мастацтва і грамадскасці Эстоніі. Загадчыца музея Хульда Лепіск на адкрыцці выставы адзначыла, што творы гомельскіх мастакоў, выкананыя на высокім прафесійным узроўні, сапраўды, як цудоўныя лекі супраць болю, болю ў шырокім сэнсе гэтага слова — па страчаных каштоўнасцях, па Беларусі. Гэтая выстава сталася працягам вялікай праграмы "БЭЗа" (беларуска-эстонскага згуртавання) і яе старшыні Маргарыты Астраўмавай па прапагандзе беларускай культуры ў Эстоніі, па выхаванні пачуцця нацыянальнай годнасці і адраджэння беларускасці сярод беларусаў Эстоніі. У межах гэтай праграмы ў верасні мінулага года адбылася выстава віленскіх мастакоў-беларусаў, а яшчэ раней — выстава аб'яднання беларускіх мастакоў Балтыі "Маю гонар".
Пакінуўшы свае працы ў Эстоніі, мастакі вярталіся ў Гомель з эцюдамі, зробленымі на балтыйскім узбярэжжы, і з добрымі ўспамінамі аб сардэчнай сустрэчы з землякамі, якія ў эміграцыі захоўваюць родную мову, нацыянальную свядомасць і не забываюць сваю Радзіму.

**М. ВОСТРАЯ**
*Г. Йыхві, Эстонія*

# ПАВОДЛЕ ЛЕГЕНД І ПАДАННЯЎ

Першая з шасці кніг новай серыі "Родны край" з'явілася ў выдавецтве "Беларусь", а называецца яна "Брэстчына". Падзагаловак "Назвы населеных пунктаў паводле легенд і паданняў" дакладна вызначае скіраванасць новага выдання, ініцыятарам якога з'яўляецца кандыдат філалагічных навук Аляксей Ненадавец. Ён доўгі час запісваў розныя творы фальклору, якія затым маглі б спатрэбіцца ў працы. Так сабралася і нямала матэрыялаў, што тычыліся паходжання розных населеных пунктаў. Іх аказалася так шмат, што А. Ненадавец вырашыў прысвяціць асобную кнігу кожнай вобласці. У "Брэстчыне" разглядаецца 105 назваў, усе матэрыялы падзелены па раёнах. На сёлетні год запланаваны і выхад дзвюх наступных кніг — "Гродзеншчына" і "Міншчына".

# НА ПРЫДЗВІНСКАЙ ЗЯМЛІ

Два дні гасцямі жыхароў Верхнядзвінскага раёна былі сябры Полацкай філіі Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў. Паэты і празаікі з Глыбокага, Полацка, Наваполацка, Ушач наведалі месца росіцкай трагедыі, перліну беларускай прыроды возера Асвея, храм у Сар'янах, сустрэліся ў вёсцы Каханавічы з клубам "Белыя вароны", наведалі мясцовы лясгас, а ў райцэнтры адбылася сустрэча з аматарамі пpыгожага пісьменства. Цёпла сустракалі прысутныя выступленні Алеся Жыгунова, Марыі Баравік з Глыбокага, Германа Кірылава, Ірыны Дарафейчук з Полацка, Лявона Неўдаха, Юрася Касцюка з Наваполацка і іншых. Вёў рэй старшыня філіі паэт Навум Гальпяровіч.
Удзельнікі вандроўкі наведалі таксама ў вёсцы Клімавічы пісьменніка-дакументаліста Генадзя Капусцёнка, пабывалі на магіле Міхася Барэйшы ля вёскі Новы Строй.

## Паэзія

Алесь ЗВОНАК



# КРОКІ КАМАНДОРА

I.

Круціць-вярцець з гісторыяй раман,
На вочы нам паначапляўшы шоры,
Патрэбен вельмі спрытны Дон-Жуан,
А да таго ж і статуй Камандора.

Яна ж, гісторыя, натураю сваёй,
Што ні кажы, — паводзін лёгкіх дама:
Любы пройдоха даспадобы ёй
Хоць божы сын,
хоць д'яблаў сын адданы...

Хоць прыбатумскіх люмпенаў гулец,
Хоць сабакар — яфрэйтар аўстрыяцкі,
А то й малазямельны маладзец,
А то і сын кухарчын заліхвацкі...

А ў нашы дні?
Тут грай ды не прайграй,
Каб да трыбуны часам не спазніцца,
Тут пра сваю удачу сам і дбай,
Як Дон-Жуан пра кожную спадніцу!..

Да ўлады так пражэцца й жаба й гусь,
З гуся ж вада сама сабой збягае,
Таму і зух, і пустаслоў, і хлус
Хутчэй за ўсіх вышынкі дасягае...

А мы, чытач, хто ў пошуках дабра,
Шукае прайдзісветам апраўдання,
Што скажам мы
пра яснай думкі брак,
Нібыта цёмнай сілай дараваным?!

II.

Хлусню і праўду цяжка распазнаць,
Як ноту фальшу
ў шматгалосым кліры,
Або падводзіць лад адна струна,
А нам здаецца: ўся фальшывіць ліра.

А як тандэт сумлення распазнаць?
Тым больш
пад тоўстай скураю куміра?
Тут тонкіх граняў патаемны знак
Непадуладны зроку ювеліра...

Найгорш за ўсё — падробка пачуцця,
Дзе чысты голас яснага прызнання
Нахабны рык імкнецца перацяць
Фальшывай нотай тлумнага гучання.

Такі ён ёсць — жыцця кругазварот:
За хвост Жар-Птушку
не ўхапіць адразу.
Каб перайсці раку — патрэбен брод,
Адолець пік — быць трэба скалалазам.

А ёсць жа ўмельцы абдурыць натоўп,
Наабяцаўшы залатыя горы,
Бо крыкнуць не адважыцца ніхто:
Зірніце, людцы, а кароль наш голы!

Што ж? Каралёва, кажуць, каралю!
Штаны яму падданыя падораць!,
Пакуль не здрыгануць наскрозь зямлю
Чыгунным рэхам крокі Камандора!

III.

Што Бог зямны? Калі Ўсявышні Сам
Крыху наблытаў: сатварыў Адама,
Пусціў пасціся ў сад... А што Адам
Рабіцьме ў кушчах райскіх тых
без дамы?!

Канешне, Бог ён здатны на дабро:
Каб той Адам не ашалеў знянацку,
Ён запазычыў у яго рабро
І змайстраваў яму такую цацку,

Што род мужчынскі ўдзячны і дасюль
За найдарожшы падарунак боскі —
За уладальніц чапялы й каструль
І за Венеру, што завуць Мілоскай!

Аднак, што зробіш, з косткі аднае?!
Падкінуў Творца шчодра глею-гліны...
(Спасцігся я, Божа, хітрыкі твае,
Чаму так многа мякаці ў жанчыны!)

Цяпер і я да розуму дабраў,
Дзе трэба ставіць коску, а дзе кропку:
Дзе не хапае у каго рабра,
А дзе ў каго пад чарапком і клёпкі!

Вядома ж, Бог жадаў усім дабра,
Стварыў Эдэм,
накшталт сучаснай Гагры,
Дзе, як нудзіст, без портак загарай,
Жуй плод пазнання
ўсе чатыры квадры!

Дык не! Пралез змяюга-звадыяш,
Ахамутаў даверлівую Еву.
Вось і пачаўся на ўвесь свет кураж
З-за аднаго паблытанага дрэва!

Зрок праясніць даў Бог нам пакрысе,
Каб кожны бачыць мог
нашэсце згубы:
Цяпер мы добра ведаем усе,
Што можа натварыць япрук
пад дубам!

Хто сам сябе ў балота завалок,
На суд спяшайся праведны і скоры,
Бо ўжо гучаць зусім непадалёк
Чыгунным рэхам крокі Камандора!

IV.

Не будзем лезці ўглыб сівых вякоў!
Пакуль мы хорам адмаўлялі Бога,
Паналамалі вельмі многа дроў,
Панатварылі смецця вельмі многа;

Пакуль сваёю ўласнаю нагой
Мы свет стары тапталі да падмурка,
Па волі намі ж створаных багоў,
Са Светлай Зданню бавіліся
ў жмуркі, —

Жыццё ішло. І дулю нам пад нос
Падносіў кожны новы рэфарматар
Накшталт таго, якой цаніць цаной
Чачэнскі стрэл з расійскае гарматы?!

Дык гэта там. А тут у промнях дня
Сцяг адраджэння дралі воляй злою
І горды рыцар прыпыніў каня
Перад арлом з сіямскім двухгалоўем...

І моўчкі склаўшы горды шчыт і меч,
Спяшыў за шчасцем марную пагоню,
Каб зноў надоўга ніду люду анямець
Перад атрутнай здрадай у законе...

З гісторыяй блудлівы той раман
Відаць, яшчэ прыканчыцца не скора,
Хоць і гучаць скрозь слоту і туман
Расплаты рэхам
крокі Камандора!

V.

А ў вокны бэзам стукае вясна,
Зямля пяе, зямля ў пчаліным гудзе.
Жыццё далёка абагнала нас,
Крыху завязлі мы ва ўласным брудзе...

Б'юць капытамі тракаў трактары,
Дрыжаць у "Ніў" сталёвыя паджылкі
І будзяць пеўні сонныя двары,
І золак шле ружовую ухмылку...

Жыццё ідзе... З гісторыяй раман
Развеюць ветры гневу й непакоры:
Занадта хліпкі ухар Дон-Жуан,
І палкі гнеў Народа-Камандора!

## З паэтычнай пошты

Святлана ЦІШУК

# ЗОРКА ПЕРАМОГІ

Хай кажуць мне, што май вясёлы
Ад сонца шчырага, цяпла;
Хай кажуць мне, што ад вясёлкі
І ўсмешка да людзей прыйшла;

Пераканана я: усмешцы
Дзень Перамогі колер даў.
Дзень Перамогі — дзень адметны:
Ён зоркай шчасця людзям стаў!

Праз пяцьдзесят гадоў не згасла
Ні ў свеце зорка, ні ў душы.
Напэўна, ёй наканавана
І ў вечнасці без сконы жыць.

# Я ВІНАВАЧУ ЧАЛАВЕЦТВА

Не зачыніць нам дзверы успамінаў.
Квітнее ўлетку пышны куст язміну...

Не сходзіць злыбяда і з сэрцаў нашых
Мінулая, хаця ўжо нас не страшыць.

Не сходзяць з сэрцаў і вайны нягоды.
Гады і дні па свеце карагодзяць.

І памятаю я вайны крывавасць.
А чалавецтва войны ўсё трывае.

Расчаравалася зусім я ў чалавецтве:
Яно пускае войны пад павецці.

Я чалавецтва ў войнах вінавачу!
Я й сёння па забітым бацьку плачу...

●

Сонца прамень
б'ецца, лезе праз хмарыну.
Шлях да зямлі —
намаганні не марныя.
Я, бы прамень той,
лязом сваёй годнасці
Час перамогі сваткую
над гордасцю.

# КАЛІ ТЫ — ПОБАЧ

Калі ў тваёй — мая рука,
Я не пужаюся ракі,
Бяда не скіне мяне ў вір,
Не абпячэ і плётак вар...

Калі ты побач, любы мой, —
Са мной вясёлы цёплы май.
Калі ты побач — магу жыць,
Магу адно я шчасце жаць.

●

Прыляцеў галубок да мяне, да мяне...
Мо і шчасцейка сэрца майго не міне?

Я паклічу яго. Я сустрэнуся з ім.
На зямлі мы са шчасцейкам побач стаім.

*г. Ліда*

Лідзія ЯЛОЎЧЫК

# ЛЮДЗІ

Я бягу, ты бяжыш, а куды?
У нябыт падганяюць гады,
Што тугою на грудзіляглі
Жыхароў і жыхарак зямлі.
Мітусімся, гаворым, крычым.
Кроў братоў праліваем, а чым
Мы заплацім за кроў, мой народзе,
Калі змусіць нас час сказаць: годзе!
Калі страсці ўлягуцца спаць,
Калі розум прагоніць напасць,
Думкі добрыя к чыну пабудзіць,
Тады зможам сказаць, што мы людзі.

●

Зямля, густы шацёр тваіх лясоў,
Азёраў вокны сінія, як неба,
На золку грай птушыных галасоў
І пошум бору. Нібы ўсё, як трэба.
А людзі, людзі — карані твае...
Чаму жывуць як быццам у дрымоце?
Чаму маўчыць іх мова, не пяе,
Чаму марудзяць так на павароце?
Ідзеш да мэты — з мужнасцю ідзі
І справядлівасцю свяці, як можаш.
І ў будучыню з вераю глядзі,
А там і ўсе нягоды — пераможаш!

●

Ніці ўспамінаў у думках снуюцца,
У сэрцы то болем, то кволасцю ткуцца,
Заходзяць у памяць госцем жаданым,
Даўно чаканым і міланым.
Як завіруюць жыцця успаміны:
Шчасця хвіліны, смутку гадзіны.
Перапляліся, утка̀ліся ў памяць
Ніці ўспамінаў — песцяць і раняць.

# ТВОЙ СЛЕД

Як думкі ў вёсны забягуць былыя,
У пыле дарог твой след знаходжу я.
Зноў палыхнуць заранкі маладыя,
Абдыме сэрца песня салаўя.
Я зноў удыхаю водар летняй ночы
І адчуваю рук тваіх цяпло.
А некалі там мілыя мне вочы
Скрозь морак ночы
ў душу льюць святло.
І быццам не было дарог ніколі,
Якія нас з табою развялі —
Па добрай ці нядобрай лёсу волі, —
Супольнай мы дарогі не знайшлі.
Як прыйдзе час мой, я нябачным ценем
Над роднымі палямі пралячу,
Знайду твой след і стану на калені,
І дарагое імя прашапчу.

*г. Гродна*

Вольга КУРТАНІЧ

# ДУМКІ ПАД КАПІРКУ



## ... І СВЕТ

Калі мы разважаем пра стварэнне свету, мы натыкаемся на абсурд. Значыць, абсурд больш велічны, чым сістэмы, больш лагічны і дасканалы. Недасканалы толькі наш розум.

●

Мы ўсе тройчынароджаныя ў фізічным плане: першы раз, — калі адбылося "зачацце" і наша жыццё адбылося ва ўлонні Маці; потым мы паміраем для гэтага жыцця і нараджаемся ў другі раз: з'яўляемся на свет. Мы жывём другое жыццё ва ўлонні Прыроды. Трэці раз — калі паміраем для гэтага жыцця і нараджаемся ва ўлонні Боскім.

Як немаўля не ведае, што з ім адбываецца, калі яно выходзіць у Свет праз нараджэнне, так і чалавек не ведае, што чакае яго, калі ён выходзіць у Сусвет праз смерць.

Хіба можна казаць без сумневу, што фізічная смерць — гэта небыццё, калі жылі толькі сэрцам (немаўля) і розумам (чалавек), а калі ж існаваць духу? Словы "нараджэнне" і "смерць" — сінонімы!

●

Сцвярджаюць, што ўсё ў гэтым свеце матэрыяльна і духоўна аднначасова. Калі мы бачым сонца — гэта вогненны шар, мы ведаем, што ён матэрыяльны. А калі мы бачым промні і адчуваем іх цяпло — ці можна сказаць што гэта духоўнае?

●

А, можа, чалавек "низшее" стварэнне Прыроды ў параўнанні з птушкамі, звярамі, кветкамі: ён падрыхтаваны на разбурэнне, а магчымасць думаць — гэта толькі праклён. Тады як кветкам, звярам і птушкам дадзена большае — існаваць непамысна... Гэтую ж думку можна пацвердзіць і тым, што чалавеку дадзены розум абмежаваны: ён не ўяўляе Сусвет, не ўяўляе Бясконцасць, Анічога, Бог. Ён не ўяўляе нават, што такое "чалавек" і для чаго ён створаны.

●

Ужо адно тое, што некаторым абраным (ці выпадковым) удаецца (ці даваляецца) зазірнуць у будучыню, пацвярджае, што існуе адзіны Закон развіцця: які з самага пачатку ведае, што будзе потым.

●

Мы думаем, што рухаемся ў Будучыню. Але гэта не так! Мы рухаемся ў Будучыню Мінулага. Чым больш мы жывём, чым больш ідзе часу, тым мацней і глыбей мы ўваходзім у Мінулае: перад намі ўсё менш "што будзе" і больш "што было".

●

Пару можна ператварыць у ваду, а ваду ў лёд — мы бачым тры віды аднаго і таго ж рэчыва. Можа, расліны, жывёлы і чалавек — таксама тры віды нечага Адзінага?.. Хочацца напісаць: камяні (мінералы), расліны, а жывёл і чалавека аб'яднаць.

●

Мёртвай прыроды не бывае наогул: камяні нясуць тую ці іншую энергію — нездарма ім прыпісваюць магчымасць валодання рознымі якасцямі. Хіба можа лекаваць мёртвая прырода? Цяпер многім вядома, што крэмень мае ўласцівасць насычаць ваду і лекаваць!

## ЖЫЦЦЁ І...

"Смертью смерть поправ..." Мы прыходзім на гэтую Зямлю шмат разоў, мы нараджаемся, жывём, каб потым нарадзіцца ізноў. Але мы не памятаем пра ранейшае існаванне. Чаму нам не дадзена памяць мінулага шматразовага існавання?

Мусібыць таму, што гэта была б толькі памяць Смерцяў. Узгадайма: колькі людзей гінула праз войны, голад, пошасць, праз гвалтоўныя забойствы і нечаканыя здарэнні, праз няшчасныя выпадкі і самазабойствы. Калі мы існавалі раней (наша душа жыла ў іншых целах), значыць, мы **абавязкова і неаднойчы** паміралі ў жахлівых пакутах. І калі б нам была дадзена памяць далёкага былога, яна б захавала самыя яркія ўспаміны: апошнія хвіліны жыцця — АДЫХОД — гвалт, жах, Смерць... А ўжо тады чалавек не змог бы назваць свайго стваральніка міласэрным абаронцам, Айцом. Чалавек не лічыў бы жыццё найвялікшым падарункам Бога.

Ці падарунак — жыццё?

●

Сэнс усяго жыцця — спасціжэнне. Не існаванне ад добрых часоў да горшых ці наадварот, а спасціжэнне невядомага ці добра вядомага: сябе, да прыкладу. Але, як немагчыма праляцець праз 10 прыступак уверх (ды і ці варта намагацца?) так немагчыма спасцігнуць іншы свет, не спазнаўшы свайго, таго, што побач. Асэнсаваўшы гэта — уразумець і палюбіць свет — Прыроду, даць ім Дабро думак і спраў, тады мы, чалавецтва, атрымаем Дабро і Гармонію. Тое, што дапаможа падняцца ўвыш не толькі на 10 прыступак: нам, абноўленаму чалавецтву, якое не будзе лічыць сябе ані "вышэйшым розумам", ані "царом прыроды". Дайсці да гэтага можна праз выснову: "Я твой сябар і раб".

Прырода, існуючы даволі доўга праз нашыя адносіны да яе, — як раб, атрымае волю і, можа, праз наша пакаянне: "твой сябар і раб", стане нашым сапраўдным сябрам.

## РЭЛІГІЯ І...

Кожная рэлігія — гэта догма. А догма — бар'ер на шляху пошукаў. Догма абмяжоўвае нашы пошукі ў рамках догмы.

●

Той, хто кідае свецкае жыццё і сыходзіць у манастыр, ці не аддае сваё жыццё некаму (нечаму) трэцяму, што стаіць паміж чалавекам і Богам? Ці не перакладае ён адказнасць выбару: быць ці не быць? — на служэнне ідэі і тым самым назаўсёды не пакідае за сабой права выбару. Ці не адмаўляецца ён ад волі дзеля служэння? І ці не ёсць служэнне рабствам?

Але ж чалавек нараджаецца вольным! Скуль тады гэтае рабства? І ці рабства гэта?

●

Калі веруючы чалавек моліцца, ён звяртаецца да Адзінага Бога. І для звычайнага чалавека Бог адзін. Мы звяртаемся да Бога праз іконай Хрыста, для нас Бог блізкі і амаль даступны, бо мы не ведаем іншага. Мы звяртаемся да міфічнага Бога праз пасрэдніцтва амаль зямнога. Але і гэтае "амаль" для нас настолькі незразумелае і загадкавае, што мы ўзвылічылі Яго на самы высокі ў Свеце сан, на самае высокае месца, забываючыся, што Ісус толькі Сын Божы.

Але ж, мусіць, больш лагічна ўспрыняць лічбу 1, чым 15, 9 і нават 2. Таму наш зямны Бог Адзін, бо ён існуе на памежжы рэальнага і нерэальнага. Далей зазіраць нас не пускае наш розум, наш мозг. Значыць, нам не дадзена зазіраць у нерэальнае, але магчыма — дзе, пэўна ж, існуе разгадка Быцця.

●

Рэлігія ў нейкай ступені нясе свабоду чалавечаму духу, таму што яна сягае ў невядомасць, што дае магчымасць творчасці.

●

Біблія — гэта пераклад на зразумелую чалавеку мову філасофіі Сусветнай Існасці. Дзеі, якія апісаныя, — паўтор (пераклад) гэтай Існасці на побытавым узроўні.

●

Рэлігійная ўлада такая ж небяспечная, як і палітычная. Параўнаем інквізіцыю і сталінізм — гінулі "ворагі царквы" і "ворагі народа" (чытай — дзяржавы).

## СВЕТ І...

Вам ніколі не прыходзіла ў галаву думка, што наш глобус — планета з усімі яе жыхарамі — адзіны жывы арганізм? І як у нашым целе жывуць розныя мікраарганізмы, пра якія мы даведваемся ў тым выпадку, калі яны прыносяць шкоду, разбураюць наша цела; так і мы, людзі, можам быць проста мікраарганізмамі на целе нашай планеты. І калі мы пачынаем ёй моцна шкодзіць, яна адгукаецца стыхіямі: землятрусамі, паводкамі, вывяржэннямі і да т. п.

●

Чалавек да таго часу пакланяўся Прыродзе, покуль не ўцяміў сябе асобай думаючай, усвядомленай. Тады ж Прырода згубіла для чалавека сваю моц і сілу. Ён стаўся яе "царом". Адбыўся віток эвалюцыі. Які наступны этап?

●

Наш розум ёсць крытэрыем высноў толькі для нас! Мы не маем права ацэньваць усё, што нас акаляе, як нешта застылае, як бы пры гэтым ні лічылі, што маем рацыю. Акрамя нас, людзей, могуць існаваць іншыя разумныя стварэнні, якія надзелены **сваёй ісцінай**.

●

Як мастак афармляе карціну ў раму, так і мы імкнёмся аформіць свет у раму свайго ўспрымання. Свет бязмежны, Бог бязмежны. Мы самі абмяжоўваем сябе.

## АСОБА І...

Самае натуральнае, першаснае пачуццё дзіцяці — разуменне еднасці з маці: тут і давер, і спакой, калі яна побач. Усё на ўзроўні інстынкту, гэтаму не вучаць, яно **даецца**. Так і чалавек, дзіця Боскае, мае інстынкт разумення еднасці з Богам. Чалавек будуе Храм, малюе Яго вобраз, нібы выцягвае памяць пра Яго з памяці свайго першага нараджэння.

●

У кожным з нас Боскі пачатак, Боская частка, — адсюль і ціхая бязмоўная малітва, якая мае большае значэнне, чым малітва ў Храме. Адсюль інтуітыўнае веданне, што Бог Адзіны пачуе нас праз асабістага Бога.

●

Чалавек — гэта фізічны сімвал Бога.

●

Калі сярод такой зладжанай, адпрацаванай і выверанай сістэмы, як Космас, дзе ўсё існуе і рухаецца па нейкіх звышнатуральных законах, ёсць свае бунтары, непадуладныя гэтым законам, — каметы; дык ці не ёсць і сярод істот Прыроды, а дакладней, сярод людзей — бунтары, якія не жывуць па касмічных законах? І калі ёсць, хто яны: творцы ці злачынцы? Хто? Паэты ці забойцы?..

●

Усё наша жыццё — гэта выбар; прычым, выбар цалкам індывідуальны. І ў гэтым воля і няволя кожнага з нас.

●

Мозг спіць датуль, покуль чалавек не сутыкаецца з чымсьці вялікім і незразумелым. І калі ён пачынае шукаць сутнасць невядомага, абуджаецца мозг і дае магчымасць станавіцца тымі, кім мы ёсць па сутнасці: філосафамі.

●

Толькі вольны духам чалавек можа бунтаваць. Але калі дух — раб, тады і свабодны чалавек застаецца рабом.

## МЫ І...

Ідэальны, дасканалы, "совершенный", — той, хто не мае ані добрага, ані кепскага: ні заслуг, ні папрокаў. Адсюль вынікае, што гэта той, хто спыніўся ў сваім развіцці. Ці ж варта дасягаць ідэалу?

●

Пакінуты ўсімі чалавек і адзінокі чалавек — гэта зусім не адно й тое. Адзінокі — той, хто прайшоў праз **агульнае** да сябе, да свайго ўнутранага эга. Сапраўды адзінокі чалавек знаходзіцца ў пошуку **стварэння**; тады як пакінуты — у пошуку паратунку ад сваёй вонкавай адзіноты.

●

Не старайцеся быць уладальнікамі сваіх успамінаў. Успаміны — гэта скарб, які трымае вас пры сабе. І тады вы зможаце на ўсё жыццё застацца толькі вартаўніком свайго скарбу. Толькі вартаўніком! І больш нікім.

●

Паставім трох чалавек: рэлігійнага, інтэлектуальнага і (умоўна) сярэдняга ў абсурдную сітуацыю. У чым мы ўбачым адрозненне? Рэлігійны ўспрыме абсурд як будзённае, бо ён ужо мае вопыт сустрэчы з вышэйшай невядомасцю, неспазнаным; інтэлектуал зразумее абсурднасць і паспрабуе выявіць у ёй эстэтыку. А сярэдні ўбачыць... пустэчу і гэтым выратуе свой мозг.

●

Калі вы не хочаце мець душэўных пакутаў, зазначце той стан, які можна назваць гармоніяй. І ў той час, калі вы на раздарожжы, вяртайце сябе — хай прымусова! — да стану гармоніі, пакідайце кепскае па-за вашай памяццю і разуменнем.

## ТВОРЧАСЦЬ І...

Мы пішам (гаворым) словамі. Але словы не ёсць тыя дзеянні, якія адбываюцца. Яны не ёсць ява, з'явішча, не ёсць працэс здзяйснення. Ці можна словамі выказаць тое, што ёсць на самай справе? Словы — сцяна паміж вамі і існасцю.

●

Толькі ў выпадку неабмяжоўвання сваёй свядомасці рамкамі розуму вы можаце спазнаць свабоду духа. Тады вы можаце стаць непрадказальным нават для самога сябе. Толькі праз гэта вы зможаце стаць сапраўды **творчым**.

●

Калі вы пішаце твор, дайце сабе магчымасць забыцца на ўсё, што вы ведаеце, на ўсё, што трымаецца ў вашай памяці. І не імкніцеся пераўвасобіцца ў вашых герояў. Адыдзіце ад усіх і ў першую чаргу — ад сябе. Ачысціце свой мозг.

І тады тыя, каго вы чакалі, прыйдуць да вас, пакажуцца, з'явяцца: думкі, вашы героі, дзеі. Яны станоцца рэальнымі і праўдзівымі. Тады толькі вы напішаце не **праз** сябе, а **ад** сябе. Вы проста напішаце выдатны твор.

●

Быць адзінокім — вышэйшая насалода і вышэйшая пакута. Яскравы прыклад адзіноты — Дэман, выгнаннік Раю. Кожны творца хоча стаць Дэманам свайго часу.

●

Свет селяніна — пачуцці, свет творцы — інтэлект. Селянін творыць на здаровых эмоцыях, інтэлект — на інтэлектуальнай гульні. Беларуская інтэлігенцыя — інтэлектуальны зародыш, які думае, што яго ўжо нарадзілі і, што ён можа цяпер самастойна разважаць.

●

Наша проза мёртвая, у ёй не нараджаюцца дзеці: у адзін цудоўны момант яны з'яўляюцца ў герояў. Чалавецтва перажыло сексуальную рэвалюцыю як этап развіцця, а наша проза засталася цнатлівай.

***Вакацыйныя маршруты лімаўскіх аўтараў усё больш абнадзейваюць. Няхай яшчэ няма магчымасці адгукацца на жыццё мастацкіх Меккаў грунтоўным "поглядам збоку", затое часцей знаходзім там праявы блізкія, калі не сказаць — родныя. Парыжскія вандроўкі паэткі Любові Турбіной, а таксама фотамайстроў Галіны Маскалёвай і Уладзіміра Шахлевіча шчасліва сумясціліся — праўда, толькі на нашых старонках. На фоне ўжо звыклага захаплення Парыжам аповяды пра яго поўняцца адметнай цікаўнасцю ды ўхвальнай неабыякавасцю. А што яшчэ трэба нам, Парыжам не стомленым?***

# УСЁ ЛЕПШАЕ Ў СВЕЦЕ...

## СПАТКАННЕ З ПАРЫЖСКІМ БАЛЬЗАМІНАВЫМ

Выбар п'есы тлумачыўся больш як проста — у адной з рускіх бібліятэк Парыжа аказалася некалькі экземпляраў менавіта яе. Але класіка таму і класіка — яна напаўняецца тым унутраным зместам, які ёсць у душы таго, хто за яе бярэцца. Што было на душы кожнага з удзельнікаў тэатральнага гурта аб'яднання Моладзі Віцязяў, якое існуе ў Францыі ўжо больш за 70 гадоў?..

Мне не вельмі карцела ісці на гэты спектакль, але не ягонае самадзейнае выкананне адпалохвала. Надта ўжо сумнай здавалася сама п'еса Астроўскага "Жаніцьба Бальзамінава". Цяжка, здавалася мне, выбраць нешта больш няўдалае для пастаноўкі; дый дабірацца да тэатральнай залы ў чужым горадзе, нават калі гэта цудоўны Парыж, не ведаючы, на жаль, мовы, не дакладна запісаўшы адрас... Але я павінна была на гэты спектакль трапіць — і трапіла, быццам вёў мяне нябачны павадыр. Выйшла ў патрэбны бок з метро, знайшла дом і вуліцу, перайменаваную нядаўна, увайшла ў памяшканне больш як сціплае, білет купіла студэнцкі за 50 франкаў. Спектакль ужо ішоў. На асветленай сцэне разыгрываўся ажыўлены дыялог паміж сваццяй Акулінай Гаўрылавай і Паўлай Пятроўнай Бальзамінавай, нават пад густым і бязлітасным грымам надта маладымі і прывабнымі...

Мне хацелася б апраўдацца за нелюбоў менавіта да гэтай п'есы выдатнага рускага драматурга. У кінагледачоў майго пакалення свежая ў памяці кінаверсія гэтай п'есы з Г. Віцыным у галоўнай ролі — у атуленні такіх зорак як Лідзія Смірнова і Нона Мардзюкова, а таксама цэлае плоймы зорачак, і, нягледзячы на тое, а магчыма — іменна таму (улюбёны абарот Льва Мікалаевіча!) фільм успамінаецца як абсалютна мёртвы. Праўда, паасобку ў ім былі цудоўныя акцёрскія работы, усе ролі — характарныя і па звышзадачы нібыта выкрывальныя: настырная, вясёлая сваццця, дурнаватая старая — маці (гадоў пад 80!), мажная прыгажуня купчыха, кустодзіеўскі тып, досыць прывабная для Бальзамінава-Віцына (ад 35 да 50 гадоў). Магчыма, больш позніяя ролі Г. Віцына, у тым ліку бясконцы Балбес са спрытнай гайдаеўскай троіцы адкінуў цень на ўсе папярэднія работы, але безнадзейнасць і глупства на твары галоўнага героя не выклікалі ні кроплі спачування, нічога, акрамя суму, як, прынамсі, і ўся экранізацыя — ілюстрацыя да вядомага тэзісу Дабралюбава: старая Расія — цёмнае царства, толькі без промня святла ў ім, бо хто ж тады прамень?

У спектаклі, убачаным мною ў Парыжы, — спектаклі, поўным весялосці, маладосці і святла, прамень, правільней, фокус святла быў — сам Бальзамінаў у выкананні на прозвішча нібыта і не рускага юнага Давіда Хендэрсона-Сцюарта. Ён іграў драму асабістай незапатрабаванасці: пошук выгаднай нявесты — гэта пошук выйсця. Не карысць або жаданне пажыць на шармачка штурхаюць гэтага маладога чалавека заляцацца адразу да дзвюх паненак, яму хочацца пусціць пыл у вочы, адпомсціць за прыніжэнні ў свеце, дзе шануецца толькі багацце — праблема, актуальная і цяпер. Дзве нявесты адразу — гэта як наяўнасць дзвюх вакансій, дзвюх выгадных пасад, мары Хлестакова, дакладна пазначаныя Гогалем: "А один раз меня даже приняли за главнокомандующего (не "был", а "приняли")...

Экстаз Бальзамінава, гэтага рускага правінцыйнага каліфа на гадзіну, выканаўца цэнтральнай ролі сыграў на разрыў аорты, бязлітасна растрачваючы нервовую энергію. І зале перадаўся стан эйфарыі, якой ахоплены герой, і глядач замірае — небяспечны гэты экстаз, ох, небяспечны! Ненавязліва, далікатна камічная інтрыга п'есы выяўляе трагічную падаснову! (Гэтага быў зусім пазбаўлены памянёны фільм). Нястрымныя мары аб шчасці абрываюцца сумненнямі героя, такімі зразумелымі — а ці не занадта гэта добра, каб быць праўдай? Не збірайце скарбаў на зямлі, дзе ўсё тлен і прах. І раптам на спектаклі, на якім ты толькі што бесклапотна і гучна смяяўся, прабягаюць мурашы па скуры: а гэта ж усё пра мяне, пра нас напісана — толькі пачынаеш летуценіць, і тут жа холад у сэрцы шукае шчылінку, Бальзамінаў, які толькі што смяяўся, ужо плача, і не Хлестакоў перад намі, а звар'яцелы Папрышчын, "Матухна, пашкадуй свайго беднага сына", і п'еса Астроўскага гучыць ва унісон матыву рускай класікі, хрысціянскай па самой сваёй сутнасці. Яшчэ нічога, фактычна, не адбылося, толькі злом у душы героя, але кепскія весткі не змушаюць чакаць сябе доўга... І тут у спектакль вяртаецца камізм. Дзіўны кантраст — калі ў экранізацыі ўсе выканаўцы былі прыкметна старэйшыя, чым меў на увазе аўтар, то ў парыжскім спектаклі юныя актрысы бязлітасна стараліся састарыць сябе грымам і адзеннем, што ім, між іншым, кепска ўдалося. Але ашчаднае, любоўнае стаўленне да прыкмет старога рускага побыту, захопленасць гульнёй у простым сэнсе, гумар (не сатыра), не прафесіяналізм, а шчырасць і непасрэднасць апраўдвалі французскі акцэнт у гучанні рускай гаворкі, асабліва ў Т. Малінінай, якая іграла кухарку Матрону. Яна так доўга і выразна мыла падлогу на сцэне, што пасля спектакля да яе падышла элегантная ўсхваляваная бабулька: "Дзіцятка, ты мыла падлогу дакладна па-руску!"

Дарэчы, пра гледачоў: калі ў антракце запалілася святло, а на сцэне патухла, адкрыўся нібы яшчэ адзін у сваім родзе тэатр. Сярод прысутных можна было ўбачыць дзівосна прыгожыя твары, напоўненыя энергіяй зіхоткія вочы. Большасць гледачоў даўно і добра знаёмыя паміж сабой, рознага ўзросту — маладыя і зусім сталыя, праяўлялі кожны па-свойму наймоцную ступень зацікаўленасці ў тым, што адбываецца на сцэне. Больш за ўсё яны перажывалі, мне здаецца, за праўдзівасць паказу рускага побыту, звілін характараў. Адсюль зацікаўленасць, добразычлівасць, смех...

А вось трагічныя ноты, якія загучалі напрыканцы, мяркую, адчулі не ўсе; магчыма, камусьці яны падаліся і не да месца...

Пасля спектакля я сустракалася, размаўляла і, спадзяюся, пасябравала з пастаноўшчыкам спектакля Нінай Якушэўскай, у мінулым вядучай актрысай Іванаўскага тэатра, якая шэсць гадоў таму прыехала з сям'ёй у Францыю. Спачатку нас зблізіла менавіта гэта — я ўбачыла ў спектаклі трагедыю чалавечага існавання. Ён нагадаў, якія марныя ўсе нашы мары і спадзяванні, але адзіная раскоша чыстай радасці — мара...

Пасля спектакля, у сябе дома на кухні, Ніна гаварыла мне, што яна не спадзявалася на тое, што экзістэнцыяльная тэма кімсьці будзе пачутая, што для яе самой гэта быў момант чыстага самавыяўлення. Напэўна, каб пачуць і зразумець яе задуму, трэба было прыехаць цяпер з былога СССР.

А ўвогуле спектакль гэты задуманы як штогадовае свята сустрэчы, стасункаў суайчыннікаў, іграецца ён толькі аднойчы і нельга разлічваць на тое, што потым, пасля прэм'еры, можна будзе штосьці паправіць, штосьці падцягнуць. У выканаўцаў яшчэ няма завучаных прыёмаў, штампаў. У свае зорныя часы тэатр можа перацякаць у жыццё, існуючы як яго, жыцця, раўнапраўны (роўназначны) эквівалент. Гэта адбываецца, калі паміж сцэнай і залай знікаюць перагародкі і ўзнікае нейкая кволая еднасць, нейкая агульная крывяносная сістэма, па якой адбываецца абмен эмоцыямі і энергіяй; сцэна заражае залу, гледачы сілкуюць артыстаў. Гэты "цуд еднасці" ўзнік на бачаным мною спектаклі — а ці не дзеля гэтага і існуе наогул тэатр, прафесійны, а самадзейны — тым больш?

Адміністрацыяй і рэпетыцыямі загадвала Вольга Трубнікава-Андрэлі, маладая энергічная дама, маці траіх дзяцей і энтузіястка на ніве культуры. Гэта яе самаадданай працай збіраліся касцюмы і бутафорыя, а таксама і артысты на рэпетыцыі, што зусім не проста — адрываць вучнёўскую моладзь ад асноўных заняткаў (а іспыты ў Францыі справа выключна сур'ёзная). Вольга збірае моладзь не толькі для рэпетыцый, але і проста для заняткаў па рускай літаратуры, рускай музыцы і жывапісе, каб не даць нашчадкам тых, хто вымушаны быў пакінуць Радзіму пад ціскам тых альбо іншых варункаў, трэцяму пакаленню расейскіх эмігрантаў, па крыві ўжо рускіх напалову або на чвэрць, не забыць мову і культуру, якая ўсведамляецца ўдалечыні як галоўная вартасць, да якой яны далучаны па праву нараджэння. Асаблівая, светлая атмасфера гэтага спектакля тлумачыцца, як мне здаецца, чысцінёй намераў, асаблівым складам душы яго ўдзельнікаў.

Усё лепшае ў свеце, асабліва ў мастацтве, трымаецца ў асноўным на энтузіязме, на дружбе і падтрымцы аднадумцаў. І, як усё сапраўднае, немагчыма без веры і любові.

**Любоў ТУРБІНА**

# СВАЕ Ў ПАРЫЖЫ,

## або СВЯТА, БОЛЬШАЕ ЗА ПРАЦУ

***У Маскве ладзілі чарговую буйную фотавыставу. Як мае быць, запрасілі спецыялістаў з Захаду. Тыя, як бывае ці не штораз, выбралі пяць лепшых фотамайстроў, каб прадставіць іх у сябе. Такім чынам ГАЛІНА МАСКАЛЁВА і УЛАДЗІМІР ШАХЛЕВІЧ атрымалі запрашэнне на месячнік фота ў Парыж: ад Міністэрства культуры Францыі ды ад асацыяцыі, якая займаецца абаронаю і пільнаваннем правоў фотамастакоў. Ну а паколькі гэтакае свята духу і разняволення ладзіцца нават у Парыжы адзін раз у два гады, расповяд пра яго не спазніўся, нягледзячы на каляндар: усё хлусіць каляндар! І мінула не колькі месяцаў, а колькі ўспамінаў...***

...93 выставы фота на працягу месяца: у галерэях, музеях, бібліятэках. Свята маладога віна ў Бажале, ад якога без звычкі кружылася галава. Вандроўка, цалюткая вандроўка па фабрыцы фотапрацэсаў і вырабы фота з адметнаю дырэктрысаю на чале (пасля знаёмства з ёю вырашылі, што "сталы век" не прыходзіць да парыжскіх жанчын). Парыж на цалюткі месяц — фотадзяржава, там у пашане і гуморы — напраўду, там так шануюць сваё, ад правапісу на шыльдах да аўтографаў улюбёных артыстаў, — здаецца, нічога іншамоўнага, іншароднага не трэба... Парыж усё робіць сваім. Парыж увогуле працуе шмат, нават больш як шмат... Удзельнікаў паўсюль сустракалі шампанскім. Стваралі раскутую, распрыгоненую атмасферу. Але галава кружылася і без шампанскага.

У Галі Маскалёвай была магчымасць параўнаць яе, гэтую магчымасць, давалі ўдзелы ў варшаўскіх, нью-йоркскіх, берлінскіх, капенгагенскіх фотаімпрэзах. Галя сказала, што душа ядналася з горадам, дзе яна пачувалася ў стане дзіўнай гарманічнай любові; Валодзя прамаўчаў. Але абодва засведчылі, што, не ведаючы французскай мовы, з парыжанамі разумеліся. Неяк звыкла ўжо ў свеце, што ўсе ведаюць па-англійску; парыжане, здаецца, не дужа клапоцяцца пра "абавязковую мову міжнародных зносінаў": яны, — захоплена апавядала Галіна, — так шануюць сваю, што, здаецца, навошта ім яшчэ чыёсьці? Усё адно "чыёсьці" мусіць зрабіцца сваім. І гэтая думка паўтаралася і паўтаралася... "Самімі парыжанамі?" — перапытала я. "Парыжам! — засмяялася Галіна. Ведаеш, там нават столікі ў кавярні асталяваны такім чынам, што ты апынаешся ля дзівоснае рапмы, за якою — сцэна самога горада, а ты — міжвольны глядач. Але людзі радуюцца, што ты так глядзіш на іх, нібыта ўдзельнічаеш у іхнім свеце. Цябе любяць, шануюць, або церпяць — як гледача, і часам нават даюць забыцца на твае глядацкія абавязкі: падтрымаць або абсвістаць... Мы парадаваліся даўняму кансерватызму парыжанаў: шмат хто з іх, аказваецца, быў супраць таго, каб, скажам, найноўшыя, найсучасныя пабудовы паўставалі сярод помнікаў даўніны. Так узнік парыжскі Манхэтан, самы мадэрновы і сучасны кавалак Парыжа. Але праўда і тое, што па старым Парыжы мы лёталі, нібы лунталі, а Манхэтан цісньуў..."

Зарыентавацца ў горадзе і выставах беларускім фотамастакам дапамог спадар з дзіўна знаёмым прозвішчам Гучкоў, паўнамоцны прадстаўнік афіцыйнага Парыжа. Нашы не памыліліся: сын былога міністра Часовага ўрада. Не свойскі, не чужаніца, не "з былых". А такі, якога Парыж даўно зрабіў сваім.

Ці не самыя адметныя прафесійныя ўражанні Галіне Маскалёвай падарыла наведванне фатаграфічнае школы Гуго Гаранга, жартаўлівага, вясёлага, абаяльнага, які, здавалася, сур'ёзна ні размаўляць, ні зносіцца не ўмеў. Нават з навучэнцамі ён не здраджваў свайму характару, не трымаў юнакоў і дзяўчат у цвёрдых рамках, а даваў шмат волі; увогуле ж выглядаў ён як дзядзька-сямейнік у юнацкім палоне. Па ўсіх выставах ды прыёмах хадзіў з прыгожым такім драўляным фотаапаратам і бесперапынна пстрыкаў — направа і налева. Замест фотаздымкаў... дарыў скруткі з "Кодакам", радасна хваліўся, колькі патрэбнага матэрыялу для работы ён ашчадзіў замест каб пусціць у глум, здымаючы саміх жа фотамастакоў... Тры стужкі, якія Гуго Гаранг не змарнаваў на яе, Галіна Маскалёва, па ейным жа вызначэнні, "ляснула" ў Цэнтры Пампіду і ў музеях. Прывучаная, што там няможна здымаць з успышкаю, страшэнна здзівілася, як ля "Моны Лізы" адначасова ўспыхвалі цэлыя феерверкі ў руках турыстаў. Мо французы вынайшлі як паспяхова абараніць шэдэўры і не засмуціць тых, хто прагне застацца з іхнімі фотаадбіткамі? Валодзя Шахлевіч таксама зазняў "Джаконду". Але выхаванне перамагло, — без успышкі.

Парыж стварае свята, якое заўжды з табою, і цытаваць гэта таксама банальна, як і заўважаць, што для свята Парыж працуе шмат, нават больш як шмат. Галіна прызнавалася, што пасля фоташколы Гуго Гаранга яна ізноў узялася параўноўваць, перадусім — свае намеры адкрыць штосьці падобнае ў Мінску, свае нараканні на брак плошчаў, сродкаў, грошай, фондаў... "Больш за што іншае нам бракуе ведаў і смеласці", — засведчыла Галіна і прызналася, што фота-Парыж шукае зносінаў — але ўсё больш з фота-Масквою. Праўда, пасябраваўшы, з радасцю супрацоўнічае і з Мінскам, але сяброўскія зносіны мусяць натуральна пераходзіць на справы, а справам трэба навучацца. Масква ўмее, мовім так, спраўнічаць, порстка, дакладна, абазнана. Беларускія фотамастакі настроеныя рамантычна. Не могуць здымаць "Мону Лізу" з успышкаю нават тады, калі гэта дазволена. Варта цвярдзей настойваць на...сабе. Сімпозіум па ахове аўтарскіх правоў фотамастакоў, дзе сп. Маскалёва афіцыйна прадстаўляла незалежных майстроў незалежнае дзяржавы, даводзіў гэта кожным выступленнем. Бо нават майстры ў сталай цывілізацыі Захаду і Еўропы не абароненыя трывала ад замахаў на сваю інтэлектуальную ўласнасць. У Беларусі, мяркуе Галіна, ёсць самы найпэўны шанц зрабіцца чальцом гэтай міжнароднай арганізацыі, у гэтым ужо ёсць патрэба, — зусім як патрэба... зрабіцца сваім у Парыжы. Але ў беларускім выпадку ўсё трымаецца на асабістых кантактах. І спадзявацца застаецца толькі на іх. Тым больш на свяце, якому кожныя два гады папярэднічае адметная праца.





**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*На здымках Галіны Маскалёвай і Уладзіміра Шахлевіча — Парыж.*

***"Тут ўсё — праўда. Мабыць, зашмат сюжэтаў? Так, ім цесна, яны замінаюць адзін аднаму. Я гэта разумею. Але так было. Азірніцеся на сваё жыццё — хіба яно не ўяўляе сабою такі ж самы заблытаны ланцуг сюжэтаў, праз які праломвае сабе шлях лёс?"***

***.... Аляксандр Люцко, рэктар Міжнароднага Сахараўскага інстытута па радыялогіі, колісь, воляю лёсу, выпрабаваў на трывушчасць свой жыццёвы ланцуг, агораў свой шлях, спраўдзіўшы... спраўны марскі рэйс — "Палінезійскі рэйс" у простым ды наўпроставым сэнсе слова. Падарожныя нататкі ператварыліся ў кнігу "Палінезійскі рэйс", а потым дзіўным чынам спалучыліся ў рукапісе з натуральнымі развагамі пра чалавечую прыроду, пароду ды лёс...***

***"Палінезійскі рэйс" ужо колькі гадоў не можа ўбачыць свет кнігаю, а так хочацца пакласці канец недрукаванню рукапісаў вартых! Магчыма, наша невялікая публікацыя пацягне за сабою большую, а большая — вялікую, і ўслед за гэтымі адметнымі падарожнымі нататкамі выдадуцца і філасафічныя развагі, — належным чынам ды важкім аб'ёмам?***

Аляксандр ЛЮЦКО

# КАЛІ КАПІТАН П'Е...

## КАРАЛАВАЕ МОРА

Яшчэ ўчора ў карабельным басейне была папуаская вада, а сёння яе ўсю выплюхала гайданкаю. Усё яшчэ цягнемся ўздоўж Новае Гвінеі — другога па велічыні пасля Грэнландыі вострава ў свеце. Затое між усіх мораў Каралавае — самае вялікае. Цяпер яно... пушкінскае, вельмі сіняе з пеннымі грабеньчыкамі. Такое мора мастакі малююць да "Казкі пра цара Салтана".

Спаткаўся вялікі параход — першы за шмат дзён шляху. У Порт Марсбі ён прыйдзе толькі заўтра. Новая Гвінея — востраў чымсьці недагледжаным, на самай справе гэта — цэлы кантынент. Ёсць там высокія горы, нават пяцітысячнікі, жывуць у цэнтральных раёнах першабытныя, невядомыя навуцы плямёны. Юры Пятровіч (Капітан. — **рэд.**) распавядаў, што Міклуха-Маклай навучыў папуасаў рускім словам "топор" ды "арбуз", якія да сёння ва ўжытку. Два этнографы, якіх узялі на "Каліста" ў экспедыцыю да берага Маклая, напісалі пра гэта цэлую кнігу. Увогуле на Папуа рынуліся цяпер экспедыцыі з усяго свету. Толя Сцепаненка пры гэтым не ўтрымаўся і ўставіў свае тры грошы — показку:

— Ведаеце склад цяперашняй папуаскай сям'і? Тубылец, жонка, этнограф ды дзеткі!

Наш караблік скаланаецца, цяжка карабкаецца па хвалях, і тады з'яўляецца адчуванне бязважкасці. Калі падчас гайданкі падымаешся па трапе, дык спачатку падкідае і лёгка мінаеш колькі прыступак, і раптам, не дасягнуўшы верху, спыняешся, не маючы моцы здужаць зямное ды акіянава прыцягненне...

Апошні прамерны планшэт ледзь дарабіў: туш лётае па стале, качаюцца асадкі, мапы калоцяцца, скруткі раскручваюцца! Ну, цяперака ўсё, годзе, хутчэй на палубу!

Зоркі гойдаюцца, і мачты перакрэсліваюць цалюткія сузор'і. Цяпер якраз маладзік, але калі пастаяць даўжэй, вочы прызвычайваюцца. Зусім не наскае неба: злева ад Арыёна — Вазак з Капэлаю, трошкі вышэй ды лявей — Альдэбаран Цялка, а на небакраі непазнавальная, перакуленая дагары нагамі Касіяпея. Справа і зусім нічога не пазнаць. Другі памочнік прыцягнуў мне зорны глобус і даведнікі. Вось хораша відаць дзве самыя яркія нябесныя зоркі — акрамя Сірыюса, яшчэ і Канопус у Сузор'і Арго. У нас яго ніколі не ўбачыш. Пад раніцу на "палубе" карабля Арго ярка заззяў Несапраўдны Крыж. Ён падобны да праўдзівага, але толькі падобны: Паўднёвы Крыж гэтым часам з'яўляецца над Каралавым морам на досвітку...

Сёння чацвер, трынаццатае. Апоўдні мы знаходзіліся ў пункце з каардынатамі 11°31 паўднёвай шыраты, 151°31 ўсходняй даўгаты. Ад пачатку рэйсу прайшлі ўжо 6950 міляў, ад Сінгапура — 3230, а да Сувы яшчэ — 1650! Я пазіраю на мапу Сусветнага акіяна, разасланую ў прамерным пакоі. Божухна! Колькі мінулі, але якая гэта нікчэмная дробязь у параўнанні з усёй вадою, што залівае планету!

Мора цудоўнае ў спалучэнні з берагам. Пайшоў другі месяц плавання. Пяць дзён мы бавіліся ў порце і яшчэ тры-пяць дзён берагі толькі бачылі. Адно колькі судоў, джонкі ў Яванскім моры, невядомым чынам апынуліся ўдалечыні ад астравоў — вось і ўсё. Астатняе — бясконцая водная... Язык не выварочваецца мовіць "гладзь"! Хутка Новыя Гебрыды, але мінём і іх...

У лабараторыях усё адно працаваць немагчыма: неба яснае, а гойданка моцная. Пры гэтым увесь час хочацца есці, проста немаведама што! Мы з Молінам знішчылі па дзесяць лустаў, дык яшчэ ж і абап'ешся. А Моліну й нічога — загарае як... невядома хто. Аказваецца, ён паведаміў усяму судну, што вырашыў абысці мяне па чарноцці: нават механікі цікавяцца, як сунуцца спаборніцтвы. Юры Пятровіч параіў і Моліну "мазь":

— Сонца не трэба: гуталінам завецца!

Няхай загарае: здаля відаць, што хутка аблупіцца.

Надта хочацца піць. Сатуратар рапаруюць, мо ваду ашчаджаюць. Нешта такое старпом казаў пра ашчаднасць... І ў басейне суха — гэта ўжо капітан распарадзіўся, каб выпадковага плыўца не пляснула за борт. Я згадаў, што сёння чацвер... Саўна!

У саўне прыемныя 120 градусаў і не моцна гойдае: яе зручна асталявалі ў геаметрычным цэнтры судна. Я ўскараскаўся на палок. Злева дзед, справа — доктар. Аўрэюць. А чым пацець мне? Ад гарачыні ды праклятых лустаў раптам адчуў такую смагу, што пачаў трызніць: бачыліся чысцюткія горныя ручаіны сярод эдэльвейсаў.

Дык вось, пра смагу. Самае моцнае адчуванне зведаў у юнацтве. Мы сыходзілі па перавалах у Сванецію, паўдня вылазілі па скалах з нейкага пагібельнага месца, маятнікамі пераскокваючы небяспечныя мясцінкі на вяроўках і калі, нарэшце, апынуліся ўгары, раптоўна сышла ноч. Арганізм губляе ваду і пасля звычайнай трэніроўкі, а тут — такая гімнастыка!.. Намагаліся ісці па сцежцы, але ледзь не папераломвалі ногі і разумна вырашылі прычакацца раніцы. У каньёне, глыбока ўнізе, з-пад ледніка абрыналася недасяжная рэчка. Паімжыў драбнюткі дожджык, але кроплі выпараліся ў разяўлёных сасмяглых ратах. Лізалі вільготны намёт і жавалі лісце, а як крыху развіднела, рынуліся долу. Хутка натрапілі на танюткую ручаінку, што сцякала са схілу. Да яе прыклаліліся абедзве нашы дзяўчыны, а мы, мужыкі, адвярнуліся... Трохі ніжэй, за сто метраў усяго, бушавала нарзанная крыніца!

## ШТОРМ

Я пракінуўся ад біцця посуду і вырашыў, што Молін з'ехаў з глузду. Але рацыі не меў: усё рухаецца ды абрынаецца само! На драбнюткія аскепачкі пабіўся ўлюбёны Молінаў адэкалон. Добра пахне, але цяперака босым не паходзіш.




*Аляксандр Люцко ў час вандроўкі.*

Молін падняўся, пашнырыў вачыма і запытаўся, ці не бачыў я ягонага гадзінніка. Не, даўнютка не бачыў. І ў мяне, дарэчы, учора з палубы знесла мапы зорнага неба.

— Прырода, — задуменна мовіў Молін, — перадусім пазбаўляе навігацыйных прыладаў!

Да Сувы засталося 900 міляў. Вецер шквалісты! Гойдае ўжо тыдзень, а хваляванне нават узмацняецца. Давялося кінуць прамерваць глыбіні: сігнал эхалота перапыняецца шумамі. Хуткасць паменшала да васьмі вузлоў. Жанчыны паціху прызвычайваюцца да гойданкі і падымаюцца. Акрамя Надзеі-вялікай. Учора яна пляскала сябе па грудзёх і клялася ўласным унукам:

— Старая дурніца! І трэба было мне выправіцца ў гэты рэйс! Калі да дому дажыву, наступнага разу — ані за якую трасцу!

Нічога, адыдзе. Месяц-другі пажыве на беразе, пазносіцца на кухні з нявесткай ды зноў — у марскія прадонні! Капітан ўранні яе наведаў, намагаўся паклапаціцца, але Надзея зірнула на яго з канапкі вокам Альдэбарана.

— Нардычны характар у кабеты! — паскардзіўся капітан.

Мы з Молінам вывелі Надзею падыхаць. Неба яснае, толькі насустрач дзьме ўраганны вятрыска, у вушах гудзе ды ў рот забіваецца. Мора без грабеньчыкаў, хвалі доўгія ды крутыя. Дыхае акіян — зусім збязлюдзелы, неадушаўлёны ды бязмежны! Наш караблік напружваецца, як штангіст перш як узяць вагу, дрыжыкі дробныя яго працінаюць, ён доўга ўзлазіць наверх і праваліваецца ў пену. І тут, на самай верхняй палубе, салёныя пырскі дастаюць з галавы да ног!

А Моліну — хоць ты што хочаш: загарае ўсе суткі, нават па начах. Я пакачаўся з ім паўгадзіны, каб пракантраляваць пачарненне і параіў больш мазаць масламі-алеямі. Качацца проста так, сумна, а басейн — сухі...

Сёння пахмурна, і час ад часу праліваецца трапічная залева, а справа й злева ў туманнай воблачнай дымцы бачны высокія астравы Новых Гебрыдаў. Паўночней па курсе — вулканічная Санта-Марыя, на поўдні таксама святыя назовы — Эспірыту-Санта, за якім хаваецца востраў этнаграфічнага паломніцтва Малекула, там жывуць першабытныя плямёны!

Снедаць не прыйшла ніводная кабета. Ранішнюю лінейку з прычыны штармавога надвор'я Юры Пятровіч адмяніў. Я намагаўся пісаць у каюце. Зайшоў Молін за галаўным уборам (няўжо так горача наверсе?) і паведаміў, што блізка, справа па борце — "кавалак гебрыдзяціны", а на ёй — нябачныя "гебрыдзяняты"! Выйшлі паглядзець. "Выйшлі" — не тое слова, у такую гойданку на судне добра совацца з якарам!

Да Мбэнэ — так называецца востраў — 10 міляў. Ён апошні ў архіпелагу: далей пачынаецца праўдзівы адкрыты акіян. Здаецца, і сапраўднае хваляванне толькі пачынаецца. Судна правальваецца і рыхтуецца пераламацца напалам. Свішча вецер, вятрыска неверагоднае моцы. Як ветразі надзімаюцца курткі і, калі не трымацца за леер, нясе па ўсёй палубе!

Паведаміў Надзеі-вялікай, якая незразумела якім чынам і навошта ўбілася ў лабараторыю, каб разнявольвалася, бо наперадзе — Ціхі акіян! Надзя плюнула спачатку на Моліна, потым — на працу і ціхутка, трымаючыся за пераборкі, пасунулася да ўлежнага месца. Чым бы ёй дапамагчы? Напраўду, гойдае другі тыдзень, шлункі выцягвае. І не адно з жанчын: нудзяцца цягліцы: якім увесь час, кожную хвілю — нават уначы — трэба змагацца за раўнавагу!

... Абедаць у кают-кампанію не пускалі: там біўся посуд і лёталі імбрыкі з кіпенем. Абрусы на сталах мокрыя — так менш слізгаюць талеркі. Але супу ўсё адно больш за чарпак наліваць няможна: лішак апынаецца на суседзях. Молін дасунуў першую страву бліжэй, загнуў беражок цыраты і прапанаваў перадаваць яго па "латаку"...

Пісаць цяжка. Асадка адрываецца ад паперы або наадварот, моцна пора яе. Потым — бязважкасць! Замацаваны фатэль абарочваецца, перакульваецца, і мяне носіць у ім уздоўж стала. Карабель рыпіць, грукаціць пустымі танкамі, ілюмінатар дае нырца пад ваду і тады хочацца, каб, як у акварыуме, было бачна рыбаў...

## УСТУП У АКІЯНІЮ

Абрусы на сталах па-ранейшаму мокрыя. Вецер паўднёва-ўсходні, шэсць балаў, мора — пяць. Хуткасць ізноў паменшала: вузел наперад, два вузлы назад! За паўтара месяцы ціхутка прашлэпалі 8100 міляў, а да Сувы яшчэ паўтысячы! Цяперака ўжо і незразумела, калі дапнём...

Гэтага не ведае нават капітан. Апошнія дні ён неяк пацьмянеў пэўна праз тое, што не можа забяспечыць запланаваныя тэрміны. Ва ўчарашнім кінафільме "Аксамітны сезон" Буш пра сябе сказаў: "Калі капітан п'е, усё ў парадку..." А наш не п'е дый сезон не аксамітны для ўсіх шыротаў — канец лістапада! Настрой можа паўплываць на любога, але капітан — аблічча карабля, твар, а твар мусібыць чыста выгалены, прыемны, значны і спакойны. Я яму пра гэта сказаў. Ён выслухаў уважліва, улічыў, патлумачыў мне... што такое агентуючыя фірмы. Ад фіджыйскага агента прыйшла радыёграма з дазволам на заход і бункіроўку, але ў ёй ні слоўка няма пра магчымасць на астравах працаваць!

Радыст адстукаў чарговы запыт.

У судовым камітэце абмяркоўвалі месячны план культмасавых мерапрыемстваў. Усе гэтыя планы круцяцца вакол будучых заходаў: Толя Рабанюк вымагае футбольных сустрэчаў з тубыльцамі (самае дзіўнае, што яны на самай справе адбыліся, нават з разгромным вынікам для нас!), а трэці памочнік капітана Ігар прапанаваў танцы з канібаламі і Блакітны агеньчык.

Толькі апошнія гады Нумеа, Вілу й Суву апанавалі турысты. Воі Санта-Круса, Бугенвіля і нават былых Канібальскіх астравоў ператварыліся ў шараговых камедыянтаў, а экзотыка стала імкліва задкаваць ад узбярэжжаў у сярэдзінныя вобласці. Мы зусім ненашмат спазніліся: давядзецца здаволіцца падарожнымі муляжамі старажытных традыцыяў. А тым часам у недаступных трапічных джунглях, у глыбіні Віці-Леву, пакуль яшчэ правадыры п'юць каву-янгону паводле рытуалу, ухваленаму далёкімі продкамі!

Сітуацыя мяняецца імкліва: ад "Папаніна" прыйшла радыёграма пра тое, што фіджыйскія ўлады не дазваляюць заходзіць і працаваць у сваіх тэрытарыяльных водах. Прадпісана ісці ў Велінгтон.

Паліва засталося ўсяго на дзесяць сутак, а да равучых саракавых, дзе асталявалася Новая Зеландыя — цалюткі тыдзень хады. Капітан не адыходзіцца ад радыста, бо з Фіджы яшчэ не ўсё згублена: сувінскі агент папрасіў пачакаць на сувязі. Усё надта няпэўна, але курсу пакуль не мяняем. Да Сувы 285 міляў...

*(Працяг на стар. 14)*

Пошукі і знаходкі

# ДАЛЁКА АД РАДЗІМЫ

## ПЕРШЫ ПЕРАКЛАДЧЫК АЛЕСЯ ГАРУНА

Неяк загадчыца аддзела беларускай літаратуры Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Людміла Мікалаеўна Рабок папрасіла мяне, пры нагодзе, паглядзець у Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Саха друкаваныя матэрыялы, якія б хоць у чымсьці датычылі Беларусі, а таксама, па магчымасці, зрабіць з іх ксеракопію. Па прыездзе ў Якуцк знайшоў у бібліятэчнай картатэцы стосік картак пад агульным назвам "Беларуская літаратура ў Якуціі". Калі меркаваць па колькасці іх, то перакладаў з беларускай мовы (зразумела, праз расійскую) не так і шмат.

Мяне зацікавіла картка на пераклад з газеты "Правда" (25.10.1959 г.) "лістоў" Веры Харужай: "Белоруссия хорсун кыы Рын Вера Хоружай" ("Лісты адважнай дачкі Беларусі Веры Харужай") — "Хотугу Сулус" N 6, 1960. Замаўляю часопіс, каб зрабіць ксеракопію. Але ж зазвычай пошуку спадарожнічаюць маленькія адкрыцці. Адразу ж за "лістамі" В. Харужай, у гэтым жа нумары "Хотугу Сулус" ("Паўночная Зорка") былі надрукаваны пераклады апавяданняў на якуцкую мову Вячаслава Вікенцьевіча Бяльніцкага-Бірулі з прадмовай да іх Л. Габышава. Дарэчы, яго бацька якут Міхаіл Фёдаравіч Габышаў у 50-я гады быў дырэктарам Беларускага інстытута жывёлагадоўлі і сабраў вялікую калекцыю твораў заходнееўрапейскага мастацтва, якія пасля ягонай смерці ў 1961 г. былі перавезены спецыяльным авіярэйсам з Мінска ў Якуцк (Морозов М. "Судьба ценной коллекции" — "Советская Белоруссия", 1 февраля 1961 г.). У выніку гэтага ў Якуцку з'явіўся Музей заходнееўрапейскага мастацтва імя М. Ф. Габышава.

З прадмовы Л. Габышава высвятляецца, што Бяльніцкі-Біруля "паляк, які нарадзіўся на Беларусі", і што яго ягоныя творы друкаваліся, між іншым, і ў часопісе "Ленские Волны".

Замаўляю ўсе наяўныя 32 нумары часопіса "Ленские Волны". У нумары 4(16) за 1915 г. ад 21 лютага на старонках 6—7 знаходжу апавяданне В. Бяльніцкага-Бірулі "Сандра", а на старонцы 8 нечакана — верш Алеся Гаруна "Ноч" у перакладзе Усевалада Баршэўскага:

Алесь Гарун

### НОЧЬ

**В эту ночь мне не в мочь...**
**Силы нет ожидать и молиться...**
**Если б смел я, умел**
**Улететь, полететь иль разбиться, —**

**Бросив в дол, как орел.**
**Я направил бы в выси паренье;**
**Я бы взял, я б украл**
**И себе, и другим избавленье.**

**Если б мне в этом сне**
**Избавленье на небе не дали, —**
**Я молил бы, просил,**
**Заодно чтоб и крылья сломали.**

**И тогда навсегда**
**Попрощался бы с небом,**
**с землёю,**
**С крутизны, с вышины**
**Полетел бы за смертью своею.**

**Нет, меня, в блеске дня,**
**Здесь не встретит завидная доля.**
**Улететь, полететь**
**Иль разбитым остаться на поле.**

**Не при нас светлый час**
**Избавленья людского наступит,**
**Не в наш век человек**
**В жизнь грядущую**
**радостно вступит.**

**Без беды, без нужды**
**Будет жить он тогда, веселиться...**
**А пока не легка**
**Наша доля — терпеть и молиться.**

**Всеволод Баршевский**
*Киренск.*

Часопіс "Ленские Волны" выходзіў у 1913—1915 гг. Яго заснаваў сасланы меншавік фельчар М. Алейнікаў. Як сведчаць сучаснікі, гэта быў вельмі прадпрымальны чалавек. Ён займаўся не толькі лекарскай практыкай, але і на імя сваёй жонкі "Е. Р. Олейниковой" трымаў аптэкарскі магазін ды выдаваў літаратурна-публіцыстычны часопіс "Ленские Волны", які выходзіў штомесячна. (Канаев Н. П. "Русско-якутские литературные связи". М., 1965, с. 169—175).

Першапачаткова вырашыў, што Ус. Баршэўскі — нейкі сасланы беларус, а літара "щ" на старой паперы ператварылася ў "ш". Нават літаратараў шмат з гэткім прозвішчам: Аляксандр Баршчэўскі (Алесь Барскі), Лявон Баршчэўскі, Ян Баршчэўскі. Таму пры перадруку гэтага перакладу з паралельным тэкстам на беларускай мове ў N 1 газеты беларускай суполкі г. Якуцка "Паўночнае Ззянне" за 1992 г. было вырашана паставіць пад перакладам прозвішча Ус. Баршчэўскі.

Але потым высветлілася наступнае. Кандыдат гістарычных навук Р. Карабцова ў невялічкай зацемцы паведамляе: "Некоторых авторов (часописа "Ленские Волны") узнать не сложно, хотя они и скрыты под псевдонимами: К. Усольцев, Н. Усольцев, Вокло — это, конечно, сам Н. Е. Олейников; Тан — В. Г. Богораз, Биотур — П. Л. Драверт, В. Баршевский — В. А. Скворцов" (Коробцова Р. К. "Журнал "Ленские Волны" (80 лет со дня выхода)" — "Якутия — 1993. Календарь знаменательных и памятных дат". Якутск, 1992, стр. 54).

Неўзабаве высвятляю, што паведамленне Р. Карабцовай — гэта паменшаны варыянт працы Марты Георгіеўны Міхайлавай. "Под псевдонимом В. Баршевский или Вс. Баршевский скрыт известный в свое время иркутский и читинский издатель В. А. Скворцов" (Михайлова М. Г. "Русская литература в Якутии", Якутск, 1989 г. стр. 102; Яе ж. "Ленские Волны" — "Полярная Звезда" N 3, 1990 г., стр. 113).

Гартаю слоўнік Пятраева. "Баршевский Всеволод Александрович — Скворцов В. А." (стар. 7). "Скворцов Всеволод Александрович. Якутск. (ие) и Читинск. (ие) изд.(ания) (1913—1915) и др.(угие) газеты 20-х годов — Вс. Б-ский; Всеволод Баршевский" (стар. 63) Петряев Е. Д. "Псевдонимы литераторов-сибиряков". Новосибирск 1973).

Бяру ў рукі слоўнік Масанава: "Баршевский, Всеволод-Всев.Ал-др. Скворцов. В д.(альне)-вост.(очных) изд.(аниях). Ист.(очник): Здобнов 58.59" (Масанов И. Ф. "Словарь Псевдонимов русских писателей, ученых и общественных деятелей" т. 1, М., 1956, стр. 147). "Скворцов, Всеволод Александрович, поэт, сотр.(удник) дальневосточных изданий. Псевд.(оним) Баршевский, Всеволод", Масанов И. Ф. "Словарь..." т. 4, М., 1960, стр. 435).

Звяртаюся да Здобнева: "Баршевский, Всеволод, поэт, сотр.(удник) журн.(ала), "Лен.(ские) Волны" (1914—1916). Житель Киренска" (стар. 12). "Баршевский, Всеволод, псевд.(оним) В. А. Скворцов" (стар. 58). "Скворцов, Всеволод Александрович (псевд.(оним) Всеволод Баршевский), поэт, сотруд.(удник) Харбинских, Владивостокских и др.(угих) дальневосточных газет, затем жур.(нала) "Ленские Волны" (1914 и 1916) и др.(угих) изданий. Был на каторге и в ссылке. Уроженец Сибири" (стар. 59) Здобнов Н. В. "Материалы для сибирского словаря писателей", М., 1927 г.).

Спадзяюся, што гэтыя звесткі зацікавяць літаратуразнаўцаў.

**Алесь БАРКОЎСКІ**

# Георгій ДУБАЎ



Беларускае тэатральнае мастацтва панесла цяжкую страту. 9 жніўня 1995 года пасля цяжкай хваробы памёр народны артыст Рэспублікі Беларусь Георгій Савельевіч Дубаў.

Г. С. Дубаў нарадзіўся 9 снежня 1933 года ў г. Чыце. Пасля заканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута працаваў у Гродзенскім абласным тэатры, з 1964 года — акцёр Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. Тут у поўнай меры праявіліся лепшыя рысы яго творчай індывідуальнасці, рэалізаваліся вялікія творчыя магчымасці. Бясспрэчны талент, высокае акцёрскае майстэрства вылучылі Дубава Г. С. у лік вядучых акцёраў-коласаўцаў. Яркае камедыйнае дараванне, схільнасць да абвостранай формы спалучаліся з дасканалай псіхалагічнай характарыстыкай, мяккай афарбоўкай сцэнічных персанажаў.

Сярод разнапланавых роляў, сыграных Г. С. Дубавым на коласаўскай сцэне, нямала такіх, якія сталі здабыткам усяго беларускага тэатральнага мастацтва: Жывата Цвіевіч ("Доктар філасофіі" Б. Нушыча), Кісельнікаў ("Багна" А. Астроўскага), Бодаг ("Тэлевізійныя перашкоды" К. Сакані), Мітрафан ("Тры мяшкі засмечанай пшаніцы" У. Цендракова), Арыстарх ("Энергічныя людзі" В. Шукшына), Рудабароды ("Клеменс" К. Саі), Людовік Мерыкур ("Будзьце здаровы" П. Шэно), Тарон ("Заставайцеся сонцам" А. Папаяна), шмат іншых.

За заслугі ў развіцці тэатральнага мастацтва Г. С. Дубаў удастоены ганаровых званняў заслужанага артыста Беларусі (1972 г.) і народнага артыста Беларусі (1990 г.), узнагароджаны Ганаровай граматай і граматамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Шмат год узначальваў Віцебскую абласную арганізацыю Саюза тэатральных дзеячаў Беларусі, з'яўляўся членам мастацкай рады тэатра імя Якуба Коласа.

Светлая памяць пра Георгія Савельевіча Дубава, высокага прафесіянала, цудоўнага чалавека, назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Чыгір М. М., Сазонаў М. Ю., Русакевіч У. В., Бутэвіч А. І., Андрэйчанка У. П., Кулакоў У. П., Грыгор'еў М. В., Аленская Л. К., Яроменка М. М., Дудараў А. А., Чыгрынаў І. Г., Аўсянікаў Г. С., Акружная С. А., Андрэеў І. С., Вашкевіч І. І., Герасімовіч Э. І., Клімава А. І., Канапелька З. І., Кокштыс Т. А., Куляшоў У. А., Луцэнка Б. І., Маслюк В. В., Мазынскі В. Я., Раеўскі В. М., Станюта С. М., Тарасаў У. П., Шмакаў Ф. І., Шыпіла Я. П., Янкоўскі Р. І.**

# Георгій ПАПОЎ



9 жніўня на 78-м годзе жыцця пасля цяжкай хваробы памёр вядомы беларускі пісьменнік, заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Георгій Папоў.

Нарадзіўся Георгій Лявонцьевіч Папоў 3 мая 1918 года ў вёсцы Прыганка Круціхінскага раёна Алтайскага краю (Расія) у сялянскай сям'і. Скончыўшы Анжэра-Суджанскую фельчарскую школу ў 1938 годзе, працаваў загадчыкам Патрушэўскага медпункта. Займаўся журналістыкай. Неўзабаве перайшоў на працу ў газету "Борьба за уголь" (Анжэра-Суджанск) у якасці загадчыка аддзела культуры і быту. Адначасова вучыўся завочна ў Новасібірскім педагагічным інстытуце (1940—1941). У гады Вялікай Айчыннай вайны — ваенны медык на Калінінскім, Заходнім, Цэнтральным, І-м і 4-м Украінскіх франтах. З 1946 года — ваенны журналіст. Працаваў у газеце Беларускай ваеннай акругі "Во славу Родины". Быў супрацоўнікам рэспубліканскай газеты "Калгасная праўда". З 1959 года — адказны сакратар, а потым намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Нёман".

Літаратурную дзейнасць Георгій Папоў пачаў у 1938 годзе. У беларускім друку першае апавяданне апублікаваў у альманаху "Советская Отчизна". Пісаў на рускай мове. У 1956 годзе ў Маскве выйшаў яго першы зборнік апавяданняў "В родном полку". Прыхільна былі сустрэты чытачамі і крытыкай і ўсе наступныя кнігі пісьменніка: зборнікі аповесцяў і апавяданняў "Половодье" (1958), "Клок сена" (1965), "Гуси-лебеди" (1968), "За тридевять планет" (1976), "Поездка в Тростёну" (1977), "Память" (1978), "Низкий поклон" (1981), "Первое лето" (1985), "На том, на волжском берегу" (1986), "На дороге" (1989).

Плённа працаваў Георгій Папоў як перакладчык. На рускую мову ён пераклаў паасобныя празаічныя творы Я. Коласа, З. Бядулі, Б. Мікуліча, А. Алешкі, Я. Брыля, А. Савіцкага, Л. Гаўрылкіна і іншых.

Старанны працаўнік, сціплы, зычлівы і спагадлівы чалавек, Георгій Папоў пражыў цікавае і змястоўнае жыццё. Быў узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, "Знак Пашаны", Айчыннай вайны ІІ ступені, медалямі.

Светлы вобраз Георгія Папова назаўсёды застанецца ў сэрцах усіх, хто яго ведаў, хто працаваў разам з ім.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**

# ЗАПРАШАЕ "КРАПІВЕНКА-95"

8—10 верасня ля рэчкі Крапівенка адбудзецца традыцыйны фестываль беларускай маладзёжнай песні. Ён будзе ўжо чацвёрты па ліку. На фестываль запрошаны беларускія барды, рок-гурты і самадзейныя маладзёжныя калектывы. **Тэлефон для даведак у Оршы 2-24-06.**

ЧАЦВЕРТЫ ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАЙ




# У ЭФІРЫ — БЕЛАРУСЫ

На польскім радыё ў рамках праграмы для замежжа дзейнічае беларуская рэдакцыя, якая была заснавана ў пачатку 1992 года. Асноўная мэта рэдакцыі — паведамляць беларускім грамадзянам пра падзеі ў Польшчы на беларускай мове. Рэдакцыя сочыць за падзеямі ў Беларусі, значную ўвагу звяртае на двухбаковае польска-беларускае супрацоўніцтва і жыццё нацыянальных меншасцяў: беларускай у Польшчы і польскай у Беларусі.

**Перадачы беларускай рэдакцыі польскага радыё выходзяць у эфір тры разы ў дзень:**

**а 14.30 на кароткіх хвалях 41,18 м і 50,04 м (адпаведныя частоты 7285 і 5995 кГц)**

**а 16.30 на кароткіх хвалях 41,27 м і 49,22 м (а. ч. 7279, 6095 кГц)**

**А 19.00 на кароткіх хвалях 41,27 м і 49,22 м (а. ч. 7270, 6095 кГц).**

**Перадачы беларускай рэдакцыі польскага радыё можна слухаць па спадарожнікавай сувязі: спадарожнік ЭУТЛЬСАТ ІІ ф-3, 16 градусаў усходняй даўжыні, частотнасць 11,080 ГГз, гарызантальная палярызацыя, аўдыё 8,28 МГз.**

**Перадачы можна прымаць са спадарожніка а 17.00, ды ў суботу і нядзелю дадаткова а 12.30.**

Адрас рэдакцыі: Беларуская рэдакцыя польскага радыё, 00-977 Варшава, паштовая скрынка 46, Польшча.

Тэл. (+48+2) 6459366, 6459367, 6459282, факс (+48+22) 444-123.

Мой родны кут

# СЦЯЖЫНКАМІ ТАМАША ЗАНА

Тамаш Зан — чалавек найцікавейшага лёсу. Заснавальнік і кіраўнік першых рэвалюцыйных арганізацый на Беларусі і Літве. Паэт-рамантык і вучоны-натураліст. Найлепшы сябар і надзейны паплечнік Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Ігната Дамейкі. Ён быў яркай зоркай на небасхіле беларускага грамадскага і культурнага жыцця першай паловы XIX стагоддзя. Нездарма далёкі ад сантыментаў Энцыклапедычны слоўнік Гранат у артыкуле пра Зана пісаў: "Чалавек вялікай сілы волі і рэдкай душэўнай чысціні, ён быў кумірам моладзі, лічыўся ўвасабленнем вышэйшых рыс духу і карыстаўся велізарным уплывам".

Жыццёваму і творчаму шляху Т. Зана прысвяцілі свае даследаванні літаратуразнаўцы і пісьменнікі Польшчы, Літвы, Расіі. Сярод нашых суайчыннікаў — Кастусь Цвірка, Валянцін Грыцкевіч, Адам Мальдзіс (дазвольце тут выказаць шчырую ўдзячнасць шаноўнаму Адаму Іосіфавічу за карысныя парады і матэрыялы, дасланыя нам).

Найменш вывучаным паранейшаму застаецца пасляссыльны перыяд жыцця Зана. "Вечны выгнаннік" у 1841 г. вяртаецца на радзіму. Займаецца навуковай і педагагічнай дзейнасцю. З 1844 г. працуе інспектарам казённых маёнткаў на Лепельшчыне. Затым выходзіць у адстаўку. У 1846 г. ажаніўся з Брыгідай Свентажэцкай. На выгадных умовах жончыны бацькі набылі для маладой сям'і невялікі маёнтак Кахачын у Аршанскім павеце Магілёўскай губерні. Ён стаў, як адзначана ў "Альбоме біяграфічным славутых палякаў і полек XIX ст.", сапраўдным падмуркам шчасця сям'і Занаў. Жыццё, хоць і нялёгкае, ішло мерна і спакойна. Тут нараджаюцца чатыры сыны: Віктарын, Абдон, Клімецій і Станіслаў.

7 (19) ліпеня 1855 г. Тамаш Зан, акружаны роднымі і сябрамі, назаўжды пакінуў гэты свет. Быў пахаваны на каталіцкіх могілках у Смалянах. Н. Орда, наведаўшы ў 70-х гг. мястэчка, зрабіў малюнак "Помнік Тамаша Зана".

Але час і, болей, чалавечая абыякавасць і нават варварства прывялі да таго, што крыжы на помніках Т. Зана і яго жонкі, пахаванай побач, былі скінуты, знікла ланцуговая агароджа. Урэшце, усе пахаванні старой часткі могілак мелі жахлівы выгляд. Са справядлівым абурэннем пісаў пра гэта К. Цвірка ў кнізе "Лісце забытых алеяў". Зараз, праўда, магілы сям'і Зана (тут пахаваны і іх сын Абдон) намаганнямі вучняў мясцовай школы прыведзены ў належны парадак.

Удалося нарэшце поўнасцю прачытаць і надпіс на мемарыяльнай пліце. Вось яго поўны тэкст (у перакладзе з польскай мовы): "Мілы Богу і людзям Тамаш Зан, памяць пра якога благаславенна. Жыў шэсцьдзесят гадоў, памёр 7 ліпеня 1855 г. у Кахачыне. З Свентажэцкіх Брыгіда Занава, пахавана побач са сваім мужам. Памерла 23 жніўня 1900 г. ва ўзросце 81 г. Сын іх немаўля Стась памёр у 1854 г.".

Паставілі мы перад сабой і мэту знайсці Кахачын ці тое, што ад яго засталося. Звярнуліся перш-наперш да даведнікаў. Але такой вёскі няма ні ў "Слоўніку назваў населеных пунктаў Віцебскай вобласці", ні ў працах па тапаніміцы В. Жучкевіча. У кнізе "Опыт описания Могилевской губернии", выдадзенай у канцы XIX ст. А. С. Дзембавецкім, дзе, здаецца, падлічаны не толькі ўсе хаты і душы ў краі, але і кожнае дрэва ў лесе, Кахачына таксама няма.

А. Міцкевіч у 1853 г. паведамляе І. Дамейку з Парыжа: "У Тамаша Зана вёсачка ў Беларусі..." Але ж дзе тая вёска? Парашылі шукаць на месцы. Была адна зачэпка. К. Цвірка ў сваім эсэ прывёў урывак з ліста Міхала Чарноцкага, у якім гаворыцца, што той набыў сабе маёнтак Ледневічы (зараз вёска ў Сенненскім раёне) за пяць вёрст ад маёнтка Зана. Дарэчы, М. Чарноцкі — малодшы брат выдатнага беларускага славіста З. Даленгі-Хадакоўскага — пахаваны побач з Занамі. Помнік на магіле гэтага публіцыста і гісторыка невялікі і амаль урос у зямлю.

Прыйшлі летнія канікулы, і краязнаўцы Смалянскай сярэдняй школы на чале з філолагам Т. Пласцінінай і аўтарам гэтых радкоў накіраваліся ў вандроўку на Сенненшчыну. Праходзячы па вёсках, пыталіся ў сталых тубыльцаў, ці ведаюць яны што-небудзь пра Кахачын. Усе паціскалі плячыма. Але адзін з жыхароў вёскі Пляцы даў параду наведаць 83-гадовую Васіліну Канстанцінаўну Кірыкаву з Ледневіч. Яна доўгі час працавала фельчаркай і добра ведае ўсё наваколле. Але і тут нас чакала расчараванне. Сагнутая пад цяжарам гадоў, але ў добрай памяці, ветлівая і сардэчная жанчына расказала нам шмат цікавага пра жыццё да рэвалюцыі, пералічыла і паноў — уладальнікаў суседніх маёнткаў. А вось пра Кахачын нічога ніколі не чула. Значыцца, трэба шукаць далей, а гэта — новыя падарожжы, новыя ўражанні і, будзем спадзявацца, новыя знаходкі.

Яшчэ трохі раней, калі мы заняліся пошукамі месца былога маёнтка Зана, звярнулі ўвагу на назву Какоўчына. У час вандроўкі пабывалі і тут. Вёска вельмі прыгожая. Стаіць яна на ўзгорку, таму добра бачна здалёк. У цэнтры — новыя сучасныя будынкі: сельскі савет, магазіны, клуб, пошта. Але пра далёкае мінулае вёскі ніхто нам не мог сказаць нічога пэўнага.

Пошукі звестак пра апошнія гады жыцця Т. Зана прывялі мяне ў аддзел рукапісаў, рэдкай кнігі і стадрукаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Праглядаю шматтомны "Слоўнік геаграфічны каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін", выдадзены ў Варшаве на рубяжы XIX і XX стст. і ў гэтым надзіва грунтоўным і інфармацыйна насычаным выданні Кахачына няма. Бяру ў рукі другую частку дадатковага XV тома і там на старонцы 39 чытаю: "Какоўчын, вёска і маёнтак Сенненскага павета... 6 дамоў, 46 жыхароў, царква, школа. Маёнтак, уласнасць Занаў..."

Стоп! Аказваецца, не Кахачынам, а Какоўчынам валодаў наш герой. Але чаму змянілася назва? Ці то Кахачын з цягам часу зліўся з большай вёскай Какоўчын (Какоўчына)? Ці то трансфармавалася назва? Карацей — патрэбны далейшыя пошукі. Тым не менш, Кахачын больш нідзе не сустракаецца. А што адбылося з сядзібай? Мяркую, Заны жылі не ў мураваным палацы, а ўсяго толькі ў вялікім драўляным доме. І ён у віхуры рэвалюцый і войнаў нашага бурлівага стагоддзя не захаваўся, хутчэй за ўсё згарэў ці быў разабраны на дровы.

Наступныя два гады — юбілейныя. У 1995 г. — 140-я гадавіна з дня смерці "архіпрамяністага", а праз год — 200-годдзе з дня яго нараджэння. І абавязкова трэба ўладкаваць і адзначыць памятнай дошкай ці якімсьці іншым чынам тыя мясціны, дзе Тамаш Зан правёў апошнія гады жыцця і дзе знайшоў свой вечны спачын.

**Віктар ЛЮТЫНСКІ**
*г. Орша*

Авохці мне!

Яўген ДУДАР

# УВАСКРАСЕННЕ ГРЫШКІ БАЙСТРУЧЭНКІ

У яго ўжо нішто не балела. Было лёгка і добра. Ён некуды праваліўся. Пасля ўбачыў святло. У доўгім-доўгім калідоры. Нехта ўзяў яго за руку. Нібы гэта сястрычка, што перад аперацыяй сказала: "Раcпранацца трэба поўнасцю..." Нібы ангел. І яны паляцелі.

Апынуліся ў дзівосным садзе. Сядзяць тры дзяды. Не то ветэраны, не то святыя.

— Адкуль? — пытаюцца.

— Адтуль, — кажа праважатая.

— Сядай, — ківаюць на пянёк.

— Што там у вас?

— Яшчэ перабудоўваемся, але ўжо не паскараемся...

— А-а-а... Ты, значыць, з той часткі зямнога шара, дзе семдзесят гадоў сямімільнымі крокамі йшлі да перабудовы... Якой жа ты нацыянальнасці?

— Я — інтэрнацыяналіст! "Мой адрес — не дом и не улица. Мой адрес — Советский Союз..."

Стары пачухаў патыліцу:

— Але ж дзесьці ты нарадзіўся?

— У рэспубліке...

— Слухай, рэспубліканец, — умяшаўся другі стары. — Ты канкрэтней можаш? Вёска? Сяло?

— Не-е-е! Я — гарадской! Я з Броварей. Броваров...

Стары паглядзеў на другога старога. Кіўнуў на Грышку:

— На якой мове ён гаворыць?

— Чорт яго ведае, — паціснуў плячамі той... І не расейская і не ўкраінская, і не беларуская. Быццам царкоўнаславянская... Трэба выклікаць эксперта. Прамудрага Саламона.

Прыйшоў Саламон. Пытаецца:

— Нацыянальнасць?

— Па форме.

— Што "па форме"?

— Я толькі па форме нацыянальны, — адказаў Грышка. — Калі трэба сустрэць замежную дэлегацыю, апранаю нацыянальную форму.

— Маскарад, ці што?

— Не, не. Палітыка.

— А твае продкі хто?

— Папаня і маманя, что лі?

Саламон раскінуў мазгамі. Пацёр лысіну:

— Можа, ведаеш родныя песні? Ну тыя, якія ў вас спяваюць?

Грышка задрыгаў нагамі. Заскуголіў:

— Ау, Джоні, Джоні, хаўду-юду...

Старыя здзіўлена пераглянуліся:

— Няўжо з джунгляў Амазонкі?

— Не-е, — кажа цвёрда Грышка. — Я з Бровароў...

Яны глядзяць на яго вылупленымі вачамі.

— Што?! — злуецца Грышка, — мазгі не вараць? Кіеў ведаеце? Чарнобыль?

— А-а-а! Чарнобыль, — абрадаваліся старыя. — Як там зараз?

— Радыяцыйная абстаноўка блізкая да нормы. Той, якой нада. Народ, праяўляючы масавы гераізм, кантралюе сітуацыю і трымае чацвёрты блок. Прадукты харчавання па чысціні не маюць аналагаў у свеце...

Саламон паклаў далонь на Грышкаву галаву:

— Отрак неапазнаны. Дурасць — божы дар, але ёю так нельга злоўжываць...

Старыя пераглянуліся:

— Дзіўна. Ад такой хваробы яшчэ ніхто не паміраў...

— Тут штосьці не тое, — сказаў прамудры Саламон. — Або нам падсунулі якую-небудзь каверзу, або негатыўныя вынікі радыяцыі. Адпраўляйце яго назад.

Грышка прачнуўся на аперацыйным стале.

— О, жывы! — здзівіўся хірург. І сказаў студэнтам: — Першы выпадак з практыкі медыцыны, калі чалавек вярнуўся з таго свету...

**Пераклаў з украінскай Валерый БАБЕЙ**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Луг зарэчны, луг дзіцячых цудаў, зараз зона смецця і агню. Як заўсёды, барацьбу за чысціню пачынаем з пераносу бруду. Мінуць яшчэ нейкія гады, ніў не стане, знікнуць нашы летнікі, у адно сальюцца гарады, падзяляць іх будуць толькі сметнікі.

●

Гісторыя пакарэння народа, адлучэння сялян ад зямлі, арышты, расстрэлы, катаванні, падманы фальшывых лідэраў, няўхільны рост цэн, цэхі, што спыняюць работу, калоны дэманстрантаў на плошчы... Хто скажа, што імпульс у адну іскру вымяраецца імгненнем?

●

"Справы" фальшывых кандыцый, расправы з невінаватымі... Не паміраюць традыцыі векапомных трыццатых.

●

Багатыя мы, кума, а жывём убога. Чаго ў нас толькі няма. А няма нічога.

●

Уварвалася ў рэдакцыю, скінула сумку, папраўіла прычоску ("Я дурніца ў мамы"), закурыла: — Паглядзіце мае "Непрычасаныя думкі", лепшыя за Лецавы, пераканайцеся самі... Калега пагартаў, скрывіў пысу: — У вас, сапраўды, атрымалася лоўка, маю на ўвазе ўзлахмачаную галоўку, а прычасаць Леца — ён жа быў лысы...

●

Змянілася? За свет гняце трывога? На шыі цяжкі крыж. Псалом гатоў спяваць я. Паверыць у яе зварот да Бога? Не, штосьці не дае — глыбокі выраз плацця.

●

Храпуць у мыле коні, нясуцца дні і ночы. Бязлітасна пагоня, не асадзіць, не збочыць. Чужыя юбілеі? Чужыя некралогі? Старэем, брат, старэем, не вырвацца з аблогі.

●

Партрэт палітыка. Прыхільнік Шушкевіча? Што вы! Прыхільнік Лукашэнкі, каго заўгодна, прыхільнік таго, хто пануе сягоння. Спецыяльнасць абраў не вузкую, дакладней — масць, спатрэбіцца, возьме лінію беларускую... і так жа лёгка прадасць.

●

У інфляцыю хутка растуць цэны. Але не на чалавека.

●

Жылі-былі дзверы, якія раптам падзяліліся на "выхад" і "ўваход". "З-за прынцыповых разыходжанняў", — тлумачаць абедзве палавінкі.


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
**Саюз беларускіх пісьменнікаў; Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь; калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва"**

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

*Газету рэдагавалі*

| | |
|---|---|
| *Х.Дунец* | *(1932–35)* |
| *І.Гурскі* | *(1935–41)* |
| *А.Куляшоў* | *(1945–46)* |
| *М.Горцаў* | *(1947–49)* |
| *П.Кавалёў* | *(1949–50)* |
| *В.Вітка* | *(1951–57)* |
| *М.Ткачоў* | *(1957–59)* |
| *Я.Шарахоўскі* | *(1959–61)* |
| *Н.Пашкевіч* | *(1961–69)* |
| *Л.Прокша* | *(1969–72)* |
| *Х.Жычка* | *(1972–76)* |
| *А.Асіпенка* | *(1976–80)* |
| *А.Жук* | *(1980–86)* |
| *А.Вярцінскі* | *(1986–90)* |

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Жана ЛАШКЕВІЧ
Алесь МАРЦІНОВІЧ
Барыс ПЯТРОВІЧ, *першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА
Віктар ШНІП, *намеснік галоўнага рэдактара*

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі -- *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара -- *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі -- *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі -- *331-985*
літаратурнага жыцця -- *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі -- *332-204*
паэзіі і прозы -- *332-204*
музыкі -- *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання -- *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- *332-462*
навін -- *332-462*
мастацкага афармлення -- *332-204*
фотакарэспандэнт -- *332-462*
бухгалтэрыя -- *268-640*

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 7172.
Нумар падпісаны 17. 8.1995 г.
ЗАКАЗ 3185
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12